


# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(31) Ліпень 1996 July Год выд. 4


# Расея выбрала Барыса Ельцына сваім прэзыдэнтам на наступныя 4 гады...

## Камуністы ў роспачы будуць далей крочыць за сваім Леніным у мінуласьць...





### Нявінных людзей кідаюць за краты, а сапраўдныя правакатары ходзяць на свабодзе?

Камэнтары па беларускім тэлебачаньні, радыё, у заангажаваных падуладных газэтах у сувязі з крывавымі падзеямі, якія адбыліся на праспэкце Скарыны: экстрэмісты-бэнээфаўцы, нацыяналісты ўсіх масьцей, арганізавалі вулічны шабаш. І ні слова пра канкрэтных асоб, якія пераварочвалі міліцэйскія машыны. У той-жа час устанавіць іх зусім проста: нямала "спэцслужбоўцаў у цывільным" запісвалі кожны крок дэманстрантаў на відэастужку. Але, здаецца, ніхто і ня думае індэфікаваць тых, хто наладзіў сапраўдную правакацыю. На думку многіх актывістаў Хельсінскага камітэту, ПЭН-клюбу, Беларускай асацыяцыі журналістаў, якія правялі нядаўна "круглы стол", гэта была спланаваная акцыя з боку ўладаў. І шкада, што ў нашай дзяржаве дэзынфармацыя людзей стала паўсядзённай справай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі. Як яны могуць да заканчэньня сьледства навешваць ярлыкі на тых ці іншых людзей?

За "круглым сталом"знаходзіліся таксама вядомыя дэпутаты Вярхоўнае Рады, праваабаронцы, лідэры шэрагу палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў. Перад паважнай аўдыторыяй прадстаў Анатоль Лісун, якога цяпер ужо ведае ўвесь сьвет. Гэта яго, глуханямога, кінулі на некалькі сутак у сумнавядомы прыёмнік-разьмеркавальнік за тое, што ён быццам крычаў, лаяўся на ўладу, абражаў яе. Скажыце, як можа такі чалавек крычаць, лаяць, абражаць? Як кажуць, прыехалі...

Антон ЗАЛУЖНЫ.

Спадар Антон ШУКЕЛОЙЦЬ — адзін са старэйшых беларускіх грамадзка-палітычных і навуковых дзеячоў беларускае дыяспары. Беларускую кар'еру пачаў у Вільні ў 30-ыя гады праз хор Шырмы і Беларускі Студэнцкі Саюз. Далей безперапынная праца на беларускай адраджэнскай ніве. 20 гадоў старшынства БАЗА. Шчыры патрыёт, незалежнік і дзяржаўны дзеяч.

**Дарагі Антоні!** Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

*"Беларускі Дайджэст" шчыра вітае Алімпійскія Гульні-1996, у Атлянта, ЗША. Жадаем выдатных посьпехаў беларускім удзельнікам гэтае Алімпіяды...*




## Народ пачынае прачынацца

**Беларускі народ сёння не той, пра які пісаў М.Багдановіч: «...Ты — цёмны, сляпы, быццам крот». І не той, які пад страхам рэпрэсій і ГУЛАГаў мог паслухмяна выконваць волю камуністычнага правадыра. У наш час патрыятычная плынь у грамадстве расце, свядомасць беларусаў падымаецца ўсё вышэй, асабліва сярод моладзі. Грамадства ў большасці не толькі пасіўна не падтрымлівае русіфікатарскіх, «звышінтэграцыйных» ідэй, як шмат хто са старэйшага пакалення, але ўжо здольнае актыўна пратэставаць супраць антынацыянальнай палітыкі.**

**З гэтай прычыны і выйшлі на вуліцы — тройчы за адзін месяц — тыя, у каго баліць душа за беларускасць, за сваю Бацькаўшчыну. «А хто там ідзе ў агромістай такой грамадзе? — Беларусы»... Гэта дзесяткі тысяч рашучых людзей выйшлі ў Менску на праспекце імя Ф.Скарыны ў калонах «Чарнобыльскага шляху!» Але ўлада сустрэла іх шчыльнымі кардонамі спецназа і міліцыі, перашкодамі з машын і дубінкамі па галаве. Гістарычныя нацыянальныя сімвалы, бел-чырвона-белы сцяг, як і беларуская гаворка, паслужылі прычынай нападаў і затрымання і пасля мітынгу. А зрабіць злачынцамі Ю.Хадыку і В.Сіўчыка і пасадзіць іх за краты, калі следчыя ізалятары перапоўнены, — хіба гэта ўсё не ёсць здзек з дэмакратыі?**

**Пераконванні Старшыні ВС С.Шарэцкага на сесіі ў неабходнасці яднання нацыі і ў той жа час ганьбаванне нацыянальна-дэмакратычнага руху, дэпутатаў, якія прымалі ўдзел у мітынгах, выклікаюць, па меншай меры, здзіўленне. Ды ці ж не гэта і ўносіць раскол у беларускае грамадства, дзеліць яго на сваіх і чужых?**

**Дэмакратычны рух у абарону нацыянальнай ідэі пашыраецца. Гэта адчуваецца на месцах. У Ашмянах таксама быў арганізаваны пікет пад гістарычным сцягам з плакатам «Мы за незалежнасць Беларусі».**

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ, ветэран педагагічнай працы.**

## Наш клопат — пра сыноў і ўнукаў, пра тое, у якой дзяржаве яны будуць жыць

Цэнтральная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран" звярнулася з адкрытым пісьмом да старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Г.Шарэцкага. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Мы, ветэраны вайны і працы, звяртаемся сёння да Вас не дзеля таго, каб прасіць для сябе нейкіх ільгот ці прывілеяў. Не! Не пра тое наш сённяшні клопат. Найпершы клопат наш сёння пра сыноў і ўнукаў. У якой дзяржаве давядзецца ім жыць? Пры якіх умовах? Ці застанушча беларусамі?"

Ветэраны з непакоем пішуць, што ідзе наступ на беларускую мову, нацыянальную культуру, на нашу дзяржаўнасць. Яны выказваюць спадзяванне, што старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь зробіць усё магчымае дзеля таго, каб наша родная Беларусь захавала сваю дзяржаўнасць, каб беларуская мова набыла нарэшце сапраўдны, а не ўяўны статус дзяржаўнай. І яшчэ просяць не даваць у крыўду гістарычныя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".

Ветэраны-дэмакраты мараць пра тое, каб нашчадкі нашы жылі ў сапраўды незалежнай, дэмакратычнай, нейтральнай беларускай дзяржаве.

### Украінскі Парлямэнт прыняў Канстытуцыю

Першая пасьля-савецкая Канстытуцыя была прынятая 315 да 36 галасамі. Камуністы доўга блякавалі прыняцьцё новае Канстытуцыі дамагаючыся розных сваіх уставак і палажэньняў, у тым ліку і зраўнаньня расейскае мовы з украінскай, як у Беларусі. Аднак здаровы розум перамог і Украіна мае сваю новую Канстытуцыю.



*27-га Ліпеня прыпадае 6-ая гадавіна незалежнасьці Рэспублікі Беларусь...*

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Лісты на Бацькаўшчыну**

# Зянон Пазьняк папярэджвае Васіля Капітана і Валянціна Агальца

**Знаходзячыся ў вымусовай эміграцыі, лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк ні на адзін дзень не адыходзіць ад грамадска-палітычнай дзейнасці. Атрымліваючы праз розныя каналы інфармацыю з Беларусі, ён усебакова аналізуе, даводзіць яе да самых розных колаў міжнароднага супольніцтва.**

А нядаўна ад З.Пазьняка атрымалі лісты Генеральны пракурор Беларусі Васіль Капітан і міністр унутраных спраў Валянцін Агалец. Звяртаючыся да першага, лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк адзначае: "...Вы папярэджваецеся пра асабістую адказнасць за бяздзеянне і патуранне крымінальным дзеянням незаконных узброеных фарміраванняў пад назвай "Служба бяспекі прэзідэнта", якія сістэматычна збіваюць людзей на вуліцах падчас дазволеных Канстытуцыяй масавых мерапрыемстваў, у аўтобусах АМАПу, у міліцэйскіх участках, у спецразмеркавальніках. Вы папярэджваецеся аб адказнасці за бяздзеянне і адсутнасць кантролю за органамі ўнутраных спраў, якія арганізавалі масавыя беспарадкі ў Мінску і збіванне людзей, за адсутнасць кантролю над выкананнем законаў у судах і ў турмах, дзе ўжываюцца сістэматычныя катаванні і здзек над чалавекам..."

Прыкладна такі ж змест і ліста, які накіраваў З.Пазьняк міністру ўнутраных спраў В.Агальцу.

**Якаў КУЦЭНЯ.**

## ыбары прызначаны на канец лістапада

**31 траўня Вярхоўны Савет абмяркоўваў унясенне зменаў і паправак у заканадаўства аб выбарах.**

Найбольшая дыскусія разгарэлася вакол шматпакутнай нормы, па якой выбары павінны быць прызнаныя адбыўшыміся. На сённяшні дзень у законе існуе, па сутнасці, недарэчная сітуацыя: першы тур выбараў згодна з рашэннем папярэдняга парламента, пацверджаным Канстытуцыйным судом, праводзіцца паводле 25-працэнтнай нормы, а другі — 50-працэнтнай. Камісія па дзяржаўнаму будаўніцтву прапанавала скасаваць гэтую відавочную бессэнсоўнасць і ўвесці адзіную 25-працэнтную квоту для абодвух тураў галасавання. Супраць гэтага, аднак, агульным фронтам выступілі камуністы і «згодацы», і пры паіменным галасаванні прапанову падтрымалі толькі 84 дэпутаты. Чакаецца, што ў аўторак пытанне будзе ўрэшце вырашана на карысць 25 %.

Камуністы тым часам прадэманстравалі свой двайны стандарт пры абмеркаванні папраўак у закон «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў», што быў прыняты цалкам. Тут іхняя фракцыя падтрымала 25-працэнтную норму, супраць якой яна так зацята выступала ў дыскусіі аб парламенцкіх выбарах. ПКБ, відавочна, асабліва не спадзяецца на поспех у давыбарах у Вярхоўны Савет, але разлічвае папоўніць сваё прадстаўніцтва ў мясцовых Саветах.

Парламент прыняў пастанову, у якой прызначыў правядзенне паўторных выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы аднachасова, не пазней канца лістапада бягучага года. Канкрэтную дату выбараў павінен вызначыць Цэнтрвыбаркам, які, дарэчы, дагэтуль не мае старшыні.

**Гісторыя без хлусні**

*Кастусь КАЛІНОЎСКІ:*

## "Кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе"

Існуе думка пра вечную грамадскую санлівасць беларусаў. Ды навязваюцца сцвярджэнні нібыта наш народ стагоддзямі марыў аб уз'яднанні з рускім. Старонкі ж гісторыі пераконваюць у адваротным. Беларусь была нахабным чынам захоплена Расіяй. Пасля вераломнай акупацыі нашы продкі не раз браліся за зброю, каб вырвацца са смяротных абдымкаў імперыі.

Што іх штурхала на барацьбу? Які наказ перадалі нам? Вось кароценькія штрышкі сапраўднай, а не выдуманай у Маскве, беларускай гісторыі. Пачытай і падумай, беларус!

Пасля падаўлення чарговага паўстання беларусаў у 1832 годзе расійскі цар зацвердзіў пастанову пра перасяленне ў Беларусь "выходцев из внутренних губерний, которые принесут с собой в сей край, чуждающийся России, наш язык, обычай, приверженность русских к престолу". На ўсе дзяржаўныя пасады пачалі прызначаць толькі расійскіх чыноўнікаў.

Такім чынам "добраахвотна" нам навязалі рускую мову, прынеслі чужыя звычаі, традыцыі, пачалося перапісванне беларускай гісторыі.

У 1864 годзе на Беларусі ўспыхнула новае паўстанне за вызваленне на чале з нашым нацыянальным героем Кастусём Каліноўскім, які пазней быў схоплены і павешаны рускімі на віленскай гандлёвай плошчы. З турмы ён перадаў нам свой запавет — "Пісьмы з-пад шыбеніцы". Вось яго радкі: "Браткі мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаць, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе...

Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа... жыць у дастатку і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаў'е сэрца і народ свой шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, але на пагібель нашу... Кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе".

**Алесь ДРАБЧУК.**

# Дэманстрацыі ў Вашынгтоне

**5 чэрвеня ў Вашынгтоне адбыліся дэманстрацыі пратэсту перад пасольствамі Беларусі і Расіі.**

Акцыю арганізавала Кааліцыя ў падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Кааліцыю заснавалі 14 беларускіх арганізацый Паўночнай Амерыкі, сярод якіх Беларускае Амерыканскае Задзіночанне, Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Сусветная асацыяцыя беларускіх габрэяў, Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады і інш.

Арганізатары ад імя ўдзельнікаў дэманстрацыі распаўсюдзілі зварот да амерыканскай грамадскасці і дзелавых колаў. У ім падкрэсліваецца, што падзеі апошніх часоў у Беларусі — *збіццё і выдаленне дэпутатаў з залы паседжанняў, націск на Канстытуцыйны суд, забарона свабодных прафсаюзаў, дзяржаўная манаполія на сродкі масавай інфармацыі і ўвядзенне цэнзуры, фактычнае спыненне эканамічных рэформаў, нядаўнія расправы над удзельнікамі мірных шэсцяў і інш.* — несумяшчальныя з панятцем дэмакратыі і ўяўляюць вялізную небяспеку для стабільнасці ў Еўропе.

*«Мы звяртаемся да амерыканскага народа і асабліва да дзелавых колаў, на чые інвестыцыі разлічвае Лукашэнка, з заклікам падняць голас у абарону ўсіх арыштаваных і пераследаваных урадам Лукашэнкі, каб дапамагчы Беларусі выжыць як незалежнай і багатай дзяржаве, дзе высока цэняць правы чалавека, канстытуцыйны лад і добрыя ўзаемадачыненні з суседзямі і цэлым светам»*, — гаворыцца ў звароце.

**Б. П.**

## Сьвятлана Багінская едзе на Алімпіяду

Трохразавая алімпійская чэмпіёнка Сьвятлана Багінская пасьля двухгадовага перапынку вярнулася ў гімнастыку і пастанавіла выступаць на Алімпіядзе, ужо для яе трэйцяй.

Першы крок да ўдачы ўжо зроблены. На нядаўнім чэмпіянаце Эўропы ў Бірмінгаме па спартыўнай гімнастыцы яна заваявала срэбны мэдаль. Цяпер менчанка разам з іншымі беларускімі гімнастамі рыхтуецца да Гульняў-96. А наогул Сьвятлана жыве і працуе ў амэрыканскім горадзе Гюстан.

# ПАВЕЛ ЗНАВЕЦ: "ДАРАВАННЯ НЕ БУДЗЕ НІКОЛІ"

*Увечар 26 красавіка, пасля мітынгу і шэсця, на якіх былі справакаваны беспарадкі, пачаліся арэшты. Так былі затрыманы Баршчэўскі Л.П., Важнік І.І., Пятрушын А.В., Маеў В.А., Лепарскі І.А., Шыбко А.А., Скачко Я..А., Вячорка В.Р., Знавец П.К.*

Карыстаючыся дэпутацкай недатыкальнасцю, апошні быў адпушчаны. *Па яго словах,* адбылося выключнага характара злачынства з выкарыстаннем невядомых узброеных фарміраванняў. Бачучы сувязь удзельнікаў з асобай, займаючай пост Прэзідэнта РБ, Знавец звяртаецца да Генпракурора РБ з просьбай узбудзіць крымінальную справу па дадзенаму факту.

*— Павел Кірылавіч, раскажыце калі ласка, што адбылося з вамі ўвечар 26 красавіка, пасля мітынгу?*

— У 22.30, калі я знаходзіўся ў памяшканні па вул. Варвашэні, 8, разам з іншымі грамадзянамі, у гэтае памяшканне ўрвалася група ўзброеных аўтаматамі і пісталетамі асоб. Частка з іх была ў чорных масках, астатнія ў цывільнай і спартыўнай форме. Схапіўшы за рукі, яны насільна правялі мяне і іншых грамадзян у аўтобус, у якім ужо сядзеў мой памочнік — сакратар Баршчэўскі А. П., схоплены на вуліцы.

У далейшым нас даставілі ў памяшканне цэнтральнага РАУС і Пракуратуры Цэнтральнага раёна. Там "у якасці сведкі" я даў паказанні падзей 26 красавіка следчаму Чаркасу.

*— Скажыце, ці атрымалі вы потым нейкія выбачэнні?*

— Якія выбачэнні? Як прывялі ў пакой пасля дачы паказанняў, так і прыйшлося там прасядзець да абеда наступнага дня, без ежы і магчымасці звязацца з Генпракурорам і кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета. 27 красавіка ў 13.00 я падаў пісьмовую заяву на імя начальніка Цэнтральнага РАУС аб абвяшчэнні галадоўкі да той пары, пакуль іх не выключуць. Пасля гэтага я быў выкліканы да намесніка начальніка Цэнтральнага РАУС Зорына А. Ф., які зачытаў пратакол з абвінавачваннямі ў мой адрас і просьбамі даць тлумачэнні. Я адказаў, што ўсе тлумачэнні я даў ноччу Чаркасу і папрасіў высветліць лёс іншых незаконна арыштаваных грамадзян. Аднак усё бязвынікова.

Каля 14.00 я быў адпушчаны. *Калі б не Карпенка,* то нават мая галадоўка тут бы ніяк не паўсплывала. Дапамагло тое, што ён адшукваў мяне па ўсіх міністэрствах.

*— А хто акрамя яго прымаў меры, каб знайсці арыштаваных?*

— Не ведаю. Мабыць ніхто. Усім, як кажуць, "да лямпачкі". Ля Валадаркі зараз стаіць пікет, але і яго пэўна разгоняць. Не існуе ў нас такога органа ў выглядзе Верхоўнага Савета, які сачыў бы за законнасцю. Гэта бутафорскае стварэнне.

Наш заканадаўчы орган у адпаведнасці з арт. 104 ч. 2 Канстытуцыі павінен стварыць спецыяльную камісію па расследванню дадзеных фактаў злачынства. І прыняць Пастанову Вярхоўнага Савета аб прыпыненні выканання абавязкаў прэзідэнта РБ Лукашэнкай А. Р. да заканчэння работы камісіі і вынясення Вярхоўным Саветам адпаведнага рашэння.

Гаворка зараз ідзе пра дзве альтэрнатывы: ці Лукашэнка будзе мірным шляхам адхілены ад выканання абавязкаў прэзідэнта, ці ў выпадку адсутнасці рэакцыі Вярхоўнага Савета Лукашэнка, паколькі ён палітычны труп, пахавае разам з сабой і Вярхоўны Савет.

*— Але наколькі магчыма выкананне прапаноў, пералічаных у вашым звароце да Вярхоўнага Савета?*

— Ведаючы дэпутацкі корпус, я не магу выказаць зашмат надзей. Людзі галасуюць больш інстынктам і іх *жах такі вялікі, што яны* забываюць элементарную рэч — што яны парламентарыі. Тое, што здарылася *са мной у наступны раз,* можа здарыцца з кожным з іх і нават яшчэ ў горшым варыянце.

*— Такія думкі прыйшлі да вас пасля затрымання ці вы так лічылі раней?*

— Раней я быў трошкі больш высокага меркавання аб парламенце. Пасля такіх падзей трэба тэрмінова сабраць сесію, усё гэта разгледзець і вынесці адпаведныя рашэнні. Цяпер я ўпэўнены, што калі б кагосьці з дэпутатаў забралі ці *нават забілі,* то сесію ўсё роўна б не сабралі.

*— Што вы думаеце на конт таго, што падобнае наогул магчыма ў нашай дзяржаве?*

— Я лічу, што не магчыма збудаваць у цэнтры Еўропы таталітарную дзяржаву. Таму моладзь, якая выйшла на мітынг, пераможа. І хай не заўтра, не паслязаўтра, дык праз год альбо дзесяць усе асобы, у тым ліку вышэйшыя службовыя, якія мелі дачыненне да збіцця грамадзян, будуць несці адказнасць.

**P. S.**

3 мая. Прапанова аб стварэнні спецыяльнай камісіі, выказаная Знаўцом і іншымі дэпутатамі на сесіі, не прайшла. Вярхоўны Савет адмовіўся ад сваіх кантрольных паўнамоцтваў.

4 мая. Старшыня КДБ Мацкевіч заявіў на пасяджэнні ВС, быццам пры затрыманні Знаўца не было вядома, што ён дэпутат. Міністр унутраных спраў Агалец не палічыў неабходным далучаць да адказнасці асоб, удзельнічаўшых у яго затрыманні. Працэдуру, маўляў, ніхто не парушаў. Абодвух службовых асоб Вярхоўны Савет у гэты дзень зацвердзіў на іх пасадах. Што далей?

**Ірына Екадумава**



Прэзыдэнт Лука гандлюе Беларусьсю, як цыган коньмі... Злыя языкі кажуць, што ён цыганскага паходжаньня...



# У ГАСЦЯХ У БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

## СУАЙЧЫННІКІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

звязда

**Удзяцінстве я марыла пабываць менавіта ў Аўстраліі, у маім уяўленні гэта была дзіўная і загадкавая краіна, якая знаходзіцца на другім канцы свету, дзе на вуліцах гарадоў разгульваюць кенгуру... І зусім нечакана мне нядаўна давялося пабываць там. Аўстралія заваражыла і зачаравала мяне. Унікальная дзікая прырода, фантастычнай прыгажосці флоры і фауна, мадэрновая архітэктура, сусветна вядомыя сіднейскі мост і оперны тэатр, каралавыя ўзбярэжжы, цудоўныя выспы, на якіх жывуць пінгвіны, цёплае надвор'е (зімой ніжэй +15 не бывае). Вялізны кантынент з 16-мільённым насельніцтвам, якое сканцэнтравана ў дзесятцы вялікіх гарадоў...**

**Калі ў нас вясна, там восень, поўнач у іх там, дзе ў нас поўдзень, а рух машын левабакавы. Шмат бульбы, якую высаджваюць два разы на год, авечак, трусоў, ад якіх Аўстралія ніяк не можа** ***пазбавіцца.*** **Нават нягледзячы на дзяржаўную праграму па іх знішчэнню. Праўда, іх цяпер ужо не 200 млн., як раней, калі яны з'ядалі навокал усё, што зелянела. Але ж і цяпер за горадам іх можна часта сустрэць.**

**1.** Аўстралія — былая англійская калонія, у састаў якой уваходзяць 6 штатаў і 2 тэрыторыі са сваёй самастойнай мясцовай і федэральнай уладамі. Настолькі самастойнай, што нават шырыня чыгункі кожнага штата розная. Акрамя *парламента*, існуе губернатар краіны і штата, іх зацвярджае англійская каралева. Але пасады гэтыя больш ганаровыя. Штогод краіна святкуе дзень нараджэння каралевы Англіі.

**2.** Наша знаёмства з Аўстраліяй і беларусамі, якія запрасілі прадстаўнікоў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» на ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню незалежнасці Беларусі, пачалося з Мельбурна — горада, які расцягнуўся ўздоўж акіяна на 100 км, і прадоўжылася ў Сіднеі, самым вялікім аўстралійскім горадзе.




... У Аўстраліі ў красавіку адбываліся федэральныя выбары, за якімі нашы землякі, як і ўсе аўстралійцы, сачылі, затаіўшы дыханне. Ліберальна-нацыянальная кааліцыя атрымала значную перамогу, а яе лідэр Джон Ховард стаў 25-м прэм'ер-міністрам краіны. Пасля 13 гадоў улады рабочай партыі прыйшлося пайсці ў апазіцыю. Цяпер погляды Аўстраліі скіруюцца на Еўропу, у адрозненне ад папярэдняга ўрада, пры якім краіна пачала пераўтварацца ў азіяцкую.

Адразу ж аб'явіў аб сваіх выбарах штат Вікторыя, у якім мы якраз знаходзіліся. Цікава было паглядзець, як жа праходзяць выбары ў іх. Аказалася, вельмі проста. Без усялякіх дакументаў чалавек называе сваё прозвішча, атрымлівае бюлетэнь, запаўняе і апускае яго ў невялікую кардонную скрыначку. Старыя людзі адсылаюць свае галасы па пошце. Удзел у выбарах абавязковы для ўсіх, у іншым выпадку — штраф 50 долараў. Гэта вельмі ўплывае на палітычную актыўнасць аўстралійцаў.



**3.** 20.000 *кіламетраў аддзяляе* тутэйшых беларусаў ад Бацькаўшчыны. Першая хваля эміграцыі пачалася з вясны 1950 года, калі да аўстралійскіх берагоў падышлі некалькі вялікіх параходаў, на якіх былі і нашы землякі. Гэта былі ў асноўным людзі, якіх прымусова вывезлі на работу ў Германію і якія не хацелі вяртацца назад. Частка іх засталася ў Мельбурне, частка ў Сіднеі, астатнія рассяліся па іншых штатах. Вельмі цяжкімі былі іх першыя гады жыцця тут. Спачатку спецлагеры для перасяленцаў, а пасля — самая чорная работа.

Пасля адпрацоўкі кожны быў вольны ехаць у любое месца. Праходзіў час, і нядаўнія чорнарабочыя набывалі новыя прафесіі, пачыналі займацца бізнесам. Жыццё паступова пачало наладжвацца, з'явілася патрэба ў духоўным аб'яднанні.

— Колькі тут нас у Аўстраліі, чаму б нам не жыць у аднной сям'і, трэба па долару збіраць і нам штонебудзь будаваць. Нашто нам на чужыя клубы глядзець?

Так сказаў аднойчы сп. Ліпскі на агульным сходзе беларусаў. Праз нейкі час была пабудавана беларуская царква ў Адэлаідзе, Мельбурне, беларускія дамы ў Сіднеі, Мельбурне. Пра беларускія арганізацыі, якіх даволі многа ў Аўстраліі, у Беларусі добра ведаюць. Скажу пра асноўныя. Федэральная Рада беларускіх аб'яднанняў у Аўстраліі. Яе ўзначальвае Яўген Груша, апантаны беларускімі справамі чалавек. Запаветная мара Яўгена — пераехаць жыць на радзіму. А яго брат вырашыў для сябе гэта пытанне канчаткова. Актыўна дапамагаюць у правядзенні мерапрыемстваў Алег Шнэк, Павел Гуз, Ул. Сідлярэвіч, А. Грыцук, У. Стасевіч. У Сіднеі беларускі сацыяльна-грамадскі клуб узначальвае Міхась Лужынскі, які, нягледзячы на свой узрост, займаецца яшчэ і бізнесам. Беларускі святар айцец Бурнос прыехаў спецыяльна на сустрэчу з намі з Адэлаіды. У айца Кулакоўскага дзве дачкі спяваюць беларускія і украінскія песні.

Асаблівых слоў заслугоўваюць нашы жанчыны, якія ўсе гэтыя гады «цягнулі» на сабе дом, сям'ю, каб даць магчымасць сваім мужам займацца грамадскімі справамі. Валя Антух, Надзя Груша і яе сястра Каця — усе яны многа зрабілі і робяць цяпер, каб падтрымаць беларускую справу. А справу было многа. Галоўнае, як лічылі яны, каб пра Беларусь ведалі ў свеце: праз удзел у міжнародных канферэнцыях, спартыўных спаборніцтвах, мітынгах, выставах.

Вельмі балюча адгукнулася ў сэрцах чарнобыльская трагедыя. Адразу ж сабралі некалькі тысяч долараў, закупілі лекі, прывезлі на Беларусь. Кожны год прымалі праз аўстралійскі фонд дзяцей на аздараўленне.

Мілыя, добрыя, ветлівыя, гасцінныя беларусы! Жыццё ў далёкім свеце не змяніла іх, кожнаму хацелася запрасіць да сябе пачаставаць, пагаварыць аб далёкай Бацькаўшчыне.

Жывуць яны ўсе прыкладна аднолькава: аднапавярховы дом 150—180 кв. м, гараж, даволі вялікі дворык, у якім растуць лімонныя, грэйпфрутавыя дрэвы ці іншая для нас экзотыка. Гаспадыня абавязкова пахваліцца сваім агародзікам, у якім можна ўбачыць кавуны і памідоры, цыбулю і часнок, але ўсё гэта непрывычна вялікіх памераў: паўметровае шчаўе і двухметровая фасоля. Такі там спрыяльны для ўсялякай расліннасці клімат. Вялізныя ружы, кактусы, дрэвы, усыпаныя поўнасцю фіялетавымі кветкамі; нават хатні кот напамінае па памерах маленькага сабачку.

**4.** У такім вялізным доме звычайна жывуць муж і жонка ўдваіх. Дарослыя дзеці маюць свае дамы ці на пачатку (да рэгістрацыі шлюбу, а гэта бывае і даволі доўга тэрмін) здымаюць кватэры. Маладым на набыццё дома ўрад прадастаўляе льготны крэдыт. Той, хто не працуе, — не мае права на яго атрыманне. Кошт дома — 100—200 тыс. долараў — гэта ў Мельбурне, а ў Сіднеі прыкладна ў два разы даражэй.

**5.** Дзеці беларусаў. Яны ўжо аўстралійцы. Бацькі пастараліся даць ім адукацыю. Сын Міхаіла Ціхана працуе ў банку, мае добрую пасаду. Ёсць сярод іх інжынеры, дактары, прафесары. Яны ўжо не ведаюць мовы сваіх бацькоў, размаўляюць па-англійску, і пра Беларусь ім вядома толькі з расказаў бацькоў. На нашых сустрэчах было даволі многа беларускай моладзі. Можа, гэта і дзіўна, але яны аказаліся неабыякавымі да радзімы сваіх продкаў. Пасля выступленняў старшыні Рады «Бацькаўшчына» Ганны Сурмач заўсёды было многа пытанняў.

**6.** Пазнаёміліся мы і з новай беларускай эміграцыяй. Пачатак свой яна бярэ з 1992 года, калі аўстралійскі ўрад аб'явіў новую праграму «Незалежная эміграцыя». Аўстраліі патрэбны былі спецыялісты па камп'ютэрах і праграмісты. Некалькі беларускіх сем'яў прыехалі ў Сідней. Маладыя, адукаваныя, дзелавыя, з добрым веданнем англійскай мовы — яны хутка прыстасаваліся да чужога жыцця. Саша Маёраў працуе ў аэрапорце, Галя Базыленка — у турыстычнай фірме, Валодзя Іваненка — вядучы праграміст у дзяржаўнай авіякампаніі «Квонтас», Слава Елкановіч — перакладчык, акрамя таго вядзе беларускую праграму на радыё SBS, трапіўшы сюды па конкурсу.

— Мы працуем па 15 гадзін у суткі, — расказвае Галя Базыленка, — бо пачалі з нуля. А на грамадскія справы проста не хапае часу, але ж у нас ёсць сваё асяроддзе, мы збіраемся разам. Я маю на ўвазе тыя сем'і, што выехалі нядаўна. Мы заўсёды ў курсе спраў, што адбываюцца на Беларусі. Назад вяртацца ніхто не хоча, хаця людзі сумуюць па сябрах, родных.

**7.** У Мельбурне мы жылі ў сям'і спадара Шнэка. Такі ж домік, як ва ўсіх, тры спальні, у двары (дворык агароджаны ад суседніх высокім плотам, а з вуліцы ён можа быць зусім маленькім), басейн, у якім мы кожную раніцу купаліся. Алег ужо на пенсіі, дарэчы, жанчыны тут дабіліся раўнапраўя — на пенсію яны выходзяць разам з мужчынамі — у 65 гадоў. Пенсія — 180 аўстралійскіх долараў у тыдзень (аўстралійскі долар = 0,78 USA). Пасля выхаду на пенсію кожны атрымлівае 150—500 тыс. долараў — у залежнасці ад таго, кім і дзе працаваў. За гэтыя грошы можна з'ездзіць у падарожжа ў другую краіну, а можна пакласці ў банк і карыстацца працэнтамі. Прадукты харчавання каштуюць прыкладна столькі ж, як і ў нас. З лекамі праблемы ў пенсіянераў няма. У Аўстраліі існуе сістэма дзяржаўнага медыцынскага страхавання, так званая Medicol, па якой кожны жыхар Аўстраліі, нават неграмадзянін, мае картку, гэта значыць бясплатнае медыцынскае абслугоўванне ва ўсіх шпіталях. Паліклінік няма. Ёсць хатні доктар, які накіроўвае хворага да адпаведнага спецыяліста. Існуе і сістэма прыватнага страхавання. У асноўным гэта зубное пратэзаванне, акуляры. У прыватным шпіталі можна выбраць любога доктара, ежу, чаго нельга зрабіць у дзяржаўным. Для пенсіянераў у аптэцы на лекі скідка 90—95 працэнтаў. Праезд для іх у транспарце таксама ў два разы таннейшы.

**8.** Раніца... З шасці гадзін пачынаюцца міжнародныя навіны па тэлебачанні — на грэчаскай, італьянскай, кітайскай, нямецкай, французскай, польскай, рускай мовах. Аўстралія — многанацыянальная краіна, тут пражывае 140 нацыянальных і рэгіянальных груп. Для этнічных меншасцей тут існуе радыё і тэлеканал SBS, які поўнасцю фінансуе ўрад. Беларуская праграма выходзіць пакуль што толькі ў Сіднеі, раз у тыдзень. Ёсць яшчэ для беларусаў Пэрта (заходні горад), але яна прыватная.

Да 10 гадзін у нас звычайна вольны час. Заходзяць знаёмыя нашага гаспадара.

— Здароў, кажуць, рускія.

Удакладняем: «Мы не рускія, а беларусы!»

— «Ат, якія вы ўжо беларусы пасля падпісання дагавора...»

Аркадзь Малочка — тутэйшы беларус, пенсію не атрымлівае, ён багаты чалавек, яго гадавы даход *больш за 30.000 долараў. Такім людзям дзяржава пенсію не плаціць.*

Яшчэ адзін знаёмы. Яму ўжо пад 80 гадоў, але выглядае бадзёра. Прыйшоў параіцца, які надпіс зрабіць на сваім помніку. Тут так прынята — рыхтаваць сабе жыццё на *тым свеце самому.* Гэта значыць купіць месца на могілках за 3000 долараў і помнік за 5000 ці больш і хадзіць потым ім любавацца. Беларусы маюць свой участак на гарадскіх могілках, аб якім клапоціцца ўся беларуская грамада.

**9.** Абарыгены... Яны тут не ядуць людзей. Але ж нам расказалі, што было адно племя, сапраўды людаедскае. Але гэта было даўно. Карэннага насельніцтва ў Аўстраліі засталося каля аднаго мільёна. Жывуць яны ў асноўным на сваіх землях далёка ад вялікіх гарадоў. Існуе федэральны закон аб зямельнай уласнасці для абарыгенаў — закон аб праве на валоданне зямлёй.

... Мы пабывалі ў пасёлку, дзе яны жывуць, гэта на рацэ Мурэй. Пры ўездзе здалёку відаць сцяг — чорна-чырвоны з жоўтым кругам пасярэдзіне. Вельмі сімпатычная жанчына запрасіла нас да сябе, прапанавала каву, цыгарэты. Пазней мы даведаліся, што яна закончыла універсітэт, выкладае ў школе для дзяцей аўстралійцаў і абарыгенаў, якія вучацца разам. Настаўніца дапамагае ім адраджаць сваю мову, гісторыю, культуру. Ёсць у пасёлку старэйшына, да якога звяртаюцца па парады, мужчыны тут ловяць кенгуру і рыбу на ўсіх...

А кенгуру сапраўды многа: у гарадах — у вялізных заапарках, за горадам — у лясах. Калі пачынае цямнець, яны выходзяць з лесу. Любяць, каб іх пагладзілі, але дзіця з сумачкі на жываце не выцягнеш — адразу ж становяцца агрэсіўнымі.

... Можна яшчэ доўга расказваць пра дзівосы Аўстраліі, пра жыццё аўстралійцаў і нашых суайчыннікаў у гэтай краіне. Але ж нам трэба вяртацца назад, да сваіх праблем. Бо за нас іх ніхто не вырашыць.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

# АД БЕЛАРУСКАГА ПРАВАСУДДЗЯ НЕ СХАВАЕШСЯ І Ў ВАРШАВЕ

**Менскі суд выклікаў лідэра польскага прафсаюза "Салідарнасьць" М.Кшаклеўскага на судовае паседжаньне, якое будзе разглядаць ягоную справу і абвінавачваньне ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. Сэнс абвінавачваньня зводзіцца да таго, што 16 траўня пан Кшаклеўскі сустрэўся на стадыёне з рабочымі двух менскіх заводаў (каля 50 чалавек). Улады палічылі гэта мітынгам, Кшаклеўскага - арганізатарам і інтэрніравалі яго з Беларусі.**

На пачатку стагоддзя рабочы рух таксама пачынаўся з нелегальных сходак на гарадзкіх ускраінах. Жандармы забаранялі зьбірацца болей, чым па 2 чалавекі. Гістсрыя паўтараецца: стадыён, пікет, вясельле - усё гэта, па меркаваньню сёньняшніх жандармаў, - несумненна, мітынг. А жаніх і нявеста, безумоўна, арганізатары несанкцыянаванага сходу.

*Беларускія ўлады не заўважылі, як дайграліся да бязглуздзіцы.* Польская "Салідарнасьць" - надзвычай уплывовая сіла. Гэта прамое выйсьце на амерыканскія прафсаюзы АФТ-КПП, англійскія трэд-юніёны, нямецкія, французкія, італьянскія прафсаюзы. Сябры прафсаюзу -шматлікія выбаршчыкі, іх ня ў стане ігнараваць ні адзін прэзідэнт, ні адзін урад. Свавольства над М.Кшаклеўскім будзе дорага каштаваць А.Лукашэнку. Рабочую салідарнасьць ён спазнае не ад У.Ганчарыка, а ад загартаваных у класавых бітвах нашчадкаў Ванцэці, Лудда, Тэльмана.

У дадатак прэзідэнт на пару з С.Шарэцкім ("Пагоня", N 19) пакрыўдзілі польскія ўлады, раздражнілі польскую грамадзкую думку, закранулі польскі гонар. У адказ атрымалі ліст ад Прэзідэнта Польшчы, а 26 траўня "Радыё Беласток", напрыклад, зрабіла падрабязны рэпартаж аб падзеях, якія адбыліся 26 красавіка ў Менску. Радыёхваля несла гучнае "Далоў Луку!", "Гэрш за фашыстаў!" і "Жыве Беларусь!"

Апошнія гады Польшча стала ўплывовай краінай. Сёньняшні яе прэзідэнт - жаданы госьць ва ўсім сьвеце. Былога прэзідэнта, нават без афіцыйнага статусу, прымае Біл Клінтан. Калі Польшча захоча, яна можа моцна папсаваць планы прэзідэнта Беларусі.

**С.С.**

## ЛЮДЗІ ДОБРАЕ ВОЛІ...

Гэты № нашае газэты выдаецца на 12 стар. дзякуючы фінансавай дапамозе: Др. Мацея Смаршчка з Амэрыкі ды В. Ліпскага і М. Лужынскага з Аўстраліі. Вялікае Вам Дзякуй!!!

# Ці трэба баяцца НАТО?

*У першай палове мая ў Берлінскім прыгарадзе Еркнер адбылася буйная Міжнародная канферэнцыя: "Пашырэнне НАТО — перспектывы і рызыкі". Яе ладзіў уплывовы Брандэнбургскі цэнтр "Пра Еўропа" і ў ёй бралі ўдзел эксперты вядучых даследчых цэнтраў Бона, Берліна, Парыжа, Масквы, Сафіі, Хельсінкі, Бруселя, Вільнюса, іншых гарадоў, а таксама адказныя супрацоўнікі аналітычнага цэнтра НАТО, Еўрапейскага саюза, дэпутаты парламентаў шэрагу краін.*

*У ёй прымаў удзел і дырэктар праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў (Мінск), намеснік галоўнага рэдактара газеты "Народная воля" Іван Макаловіч. Ніжэй друкуюцца яго нататкі.*

Я не хачу навязваць чытачам свае ўражанні аб форуме. Я перакажу думкі вядучых еўрапейскіх экспертаў па важнейшых праблемах кантынента, у тым ліку і ўласныя выказванні на форуме, і няхай кожны задумаецца і сам зробіць вывады.

## Навошта цяпер НАТО?

**Егідзіус Варэйкіс, Вільнюскі універсітэт:**

— Расія даўно мае граніцу з НАТО, з яго членам Нарвегіяй. І гэта яе самая спакойная мяжа. Наогул, граніцы НАТО самыя спакойныя ў свеце. Нават у тых рэгіёнах, дзе вядуцца баявыя дзеянні. Ціха на рубяжах Паўночна-Атлантычнага альянсу з Іракам, Лівanам, Азербайджанам, Мексікай... Ціха паўстагоддзя.

**Іван Гайтандзіеў, дэпутат парламента Балгарыі:**

— Уступленне ў НАТО — найлепшая гарантыя бяспекі для любой дзяржавы. Гэта адзіная арганізацыя ў Еўропе, здольная абараніць агульначалавечыя каштоўнасці.

**Карстэн Фойгт, член бундэстага Германіі:**

— Пашырэнне НАТО — гэта пашырэнне ў Еўропе зоны дабрабыту і стабільнасці, прафілактычны сродак супраць магчымых новых канфліктаў. Я за хуткае пашырэнне НАТО, не чакаючы згоды Расіі.

## Усе аднолькавыя, але адзін "асабліва аднолькавы"

**Кірыл Вяткін, навуковы супрацоўнік Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук:**

— Патрэбна сістэма агульнай бяспекі ў Еўропе, якая ўключае ў сябе і Расію. Яна магла б мець такія органы, як і НАТО: генеральнага сакратара, ваеннае камандаванне, групы планавання і кантролю... Вось "НАТО — астатняя Еўропа" можа стаць ядром будучай бяспекі.

**Карстэн Фойгт:**

— Калектыўная бяспека ў Еўропе — гэта авантурыстычная задума. Навошта дзеля яе адмаўляцца ад ужо існуючай і добра зарэкамендаванай пад сцягам НАТО? Да таго ж, пры сістэме калектыўнай бяспекі рашэнні трэба прымаць кансенсусам. А Расія ж супраць яго, настойвае на асаблівых для сябе ўмовах. Кіраўніцтва Расіі дапускае стратэгічную памылку, прэтэндуючы на асаблівую ролю ў Еўропе і свеце. Гэта ёй ужо не па сіле. Яна ўсё менней займаецца сур'ёзнымі ўнутранымі праблемамі з-за знешніх, якія не ў стане ажыццявіць.

**Іван Макаловіч, Нацыянальны цэнтр стратэгічных даследаванняў (Мінск):**

— НАТО не праяўляе гібкасці ў адносінах да Расіі. Калега з Парыжа Шутцэ лічыць, што нельга нікому даваць асобы статус, хопіць ужо таго, што яго мае Францыя. Але ж Расія выдзяляецца не толькі сваім "характарам", але найперш тым, што яна — ядзерная звышдзяржава. Таму дзеля захавання бяспекі на кантыненце варта пайсці ёй насустрач, выпрацаваць дамову па формуле "НАТО+Расія".

**Фрыдрых Крысель, намеснік кіраўніка аналітычнага цэнтра НАТО (Брусель):**

— Ужо знойдзена адна мадэль супрацоўніцтва з Расіяй. У Босніі. Па формуле: "Усе партнёры аднолькавыя, але адзін асабліва аднолькавы". Рускія былі падключаны да падрыхтоўкі аперацыі ў вельмі ранняй стадыі. Іх салдаты атрымліваюць загады ад галоўнакамандуючага (амерыканца) праз яго расійскага намесніка, які мае свой офіс у штабе НАТО, у Монсе. І някепска атрымліваецца. Трэба ўлічваць усе нюансы. Вядома ж, па чыста псіхалагічных матывах нельга дапусціць, каб расійскімі салдатамі камандаваў нямецкі афіцэр. А вось з амерыканцамі яны добра ладзяць.

## Страхі прыбалтаў

**Рэкка Візуры, дацэнт Акадэміі бяспекі Фінляндыі:**

— Мабыць, прыбалтам трэба скарыстаць вопыт Фінляндыі, так званы праект "фінляндызацыі". Фінская пазіцыя такая: нейтралітэт, паўночная інтэграцыя, асобы статус адносін з Расіяй. Мы лічым, што наш лепшы ўклад у еўрапейскую бяспеку, калі застанемся па-за ваеннымі саюзамі.

**Егідзіус Варэйкіс:**

— "Фінляндызацыя" для нас адзін з горшых варыянтаў. Ён можа быць прыняты намі хіба што як прамежкавы. Трэба гаварыць аб метадах абароны краін Прыбалтыкі ад пагроз, а не разважаць на тэму: абараняць іх ці не?

## Яшчэ не губернія, але ўжо і не дзяржава

**Кірыл Вяткін:**

— Я лічу, што Беларусь і Украіна цяпер з'яўляюцца самастойнымі, незалежнымі дзяржавамі...

**Керстэн Радзімаnоўскі, кіраўнік Брандэнбургскага цэнтра "Пра Еўропа", былы міністр замежных спраў ГДР:**

— Цяжка з гэтым пагадзіцца. Тут думаюць, Беларусь пасля падпісання дамовы аб супольнасці з Расіяй страціла сябе як дзяржава...

## Пакуль палітыкі спрачаюцца, ваенныя на ўсю моц інтэгрыруюцца

**Гуліх, брыгадны генерал (Германія):**

— Германская армія ўжо пяць гадоў мае непасрэдныя кантакты з войскамі Польшчы, Чэхіі. Завязаны сувязі з ваеннымі Венгрыі, Балгарыі, Украіны, Славакіі. Асабліва плённа ідзе супрацоўніцтва з палякамі і чэхамі. Мы прайшлі далёкі шлях наперад, значна больш, чым палітыкі. Ужо праводзяцца не толькі сумесныя спартыўныя спаборніцтвы, агляды аркестраў і вучэнні, але і вядзецца планамернае збліжэнне вайсковых структур, сумесная падрыхтоўка афіцэрскіх кадраў. Наша дывізія шэфствуе над злучэннямі Польшчы і Чэхіі.

Асабліва добра ідзе вывучэнне моў. І салдаты, і афіцэры разумеюць усе каманды. Трэба сказаць, што ў веданні замежных моў, асабліва англійскай, польскія ваенныя за тры гады зрабілі значны скачок. Яны цяпер англійскай мовай валодаюць лепей, чым мы, немцы.

Добра ідзе вывучэнне камп'ютэраў, перабудовы работы афіцэраў з салдатамі. Справа за ўдасканаленнем заканадаўстваў нашых краін. Польскія і чэшскія армі, па сутнасці, падрыхтаваны ўжо для інтэграцыі ў НАТО.

## Сцэнарыі для Еўропы

**Рэкка Візуры:**

— Я бачу тры варыянты развіцця падзей у Еўропе.

Першы — экспарт заходніх каштоўнасцей на ўсход праз Еўрапейскі саюз і НАТО. Еўропа інтэгрыраваная будуе сумеснае жыццё.

Другі — Еўропа блокаў. У адказ на пашырэнне НАТО Расія стварае анты-НАТО ці сваю імперыю. Пачынаецца новы перыяд халоднай вайны. Але ў Расіі ўжо няма рэсурсаў для яе вядзення.

Трэці. Вялікія дзяржавы ствараюць свае групоўкі: Германія — у цэнтры Еўропы, Францыя і Англія — на захадзе, Расія — на ўсходзе. Гэта найбольш катастрафічны варыянт для Еўропы.

**Іван Гайтандзіеў:**

— Першы варыянт: Расія ўдала даводзіць рэформы, становіцца дэмакратычнай краінай і супрацоўнічае з НАТО. Другі — правал у Расіі рэформ, яе ізаляцыя, канфрантацыя з НАТО. Спроба стварыць з суседніх дзяржаў буферныя зоны. Лепшы варыянт для Балгарыі — яе членства ў НАТО і дагавор Расіі з НАТО аб супрацоўніцтве. Горшы — Балгарыя ў буфернай зоне паміж Расіяй і НАТО.

**Манфрэд Шонеман, былы работнік Міністэрства замежных спраў Германіі, Асацыяцыя знешняй палітыкі і міжнароднага права (Берлін):**

— Не выключаю варыянт: Расія на ўсходзе, НАТО — на Захадзе, а ў цэнтры — Украіна. Не выпадкова амерыканцы разглядаюць яе як стратэгічнага партнёра ў Еўропе. Кіеў мае ўсе магчымасці і валодае ўсімі сакрэтамі, неабходнымі для стварэння атамнай зброі.

**Вальтэр Шутце (Парыж):**

— Анты-НАТО на абшарах СНД будзе даволі слабая арганізацыя, якая запатрабуе толькі дадатковых расходаў ад Расіі. У Еўропе будзе ісці пашырэнне НАТО, спачатку за кошт Польшчы, Чэхіі, Венгрыі, а пазней, відаць, Прыбалтыкі і Украіны.

## Як пазбегнуць расколу Еўропы?

**Карстэн Фойгт:**

— Вядома, трэба ўлічыць інтарэсы Расіі. Але пашырэнне НАТО не нясе ёй пагрозы. Яно не дае карысці і Еўропе. Пашырэнне — гэта наша ахвяраванне ўласнымі інтарэсамі дзеля суседзяў, дзеля будучыні Еўропы.

**Фрыдрых Крысель:**

— Мадэль супрацоўніцтва ў Босніі — пакуль лепшая мадэль супрацоўніцтва Еўропы з Расіяй.

**Іван Макаловіч:**

— Неабходна хуткая інтэграцыя краін СНД, у першую чаргу Расіі і Украіны, у еўрапейскія эканамічныя структуры і аказанне ім неабходнай эканамічнай дапамогі. Я згодны з заявай саветніка прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Лейка аб тым, што калі Злучаныя Штаты праявяць абыякавасць да Расіі, яны змогуць упусціць унікальную магчымасць і пасадзейнічаць яе павароту да мінулага... Гэта адносіцца і да ўсёй Еўропы. Варта толькі дапамогу Расіі ўвязваць з патрабаваннем да яе — пакінуць у спакоі сваіх суседзяў.

"Народная Воля"

"Рашэньні, прынятыя рэфэрэндумам, уступілі ў супярэчнасьць з заканадаўствам па шэрагу пытаньняў. Мы ведаем, як прагаласаваў народ па мовах. Але-ж у законе аб мовах прыярытэт аддадзены беларускай мове. Патрэбны тэрміновыя зьмены ў названы закон. А яны могуць быць прыняты толькі Вярхоўнай Радай. Але-ж у заканадаўчым органе такіх прапаноў нават няма. Парадокс? Так. Бо камісія, якой трэба ўносіць зьмены, ад такой працы адхрысьцілася. Сытуацыя ненармальная і можа выклікаць неразьбярыху, а яна можа перарадзіцца ў бескантрольнасьць".

Дзьмітры БУЛАХАЎ

# Хто ж супраць міру, стабільных цэн, танных лекаў, транспарту, жылля?..

**Кобрынскія камуністы вывесілі ў цэнтры горада свой калектыўны орган — безыменную сценгазету.**

Яна вывешана якраз насупраць цэнтральнага прыпынку гарадскіх аўтобусаў, якія стаяць тут хвілін па 10—15, і праз акно можна паспець добра вывучыць плод калектыўнай творчасці самадзейных майстроў фламастэра.

Можа, я і не заўважыў бы гэтага экзатычнага "органа", калі б не яркія малюнкі: вогненны сцяг у верхнім левым кутку з надпісам на ім — "За нашу советскую Родину СССР" і чырвонаармеец у будзёнаўцы па правы бок ліста, які наставіў на мяне, нібы ствол пісталета, указальны палец і сурова запытаўся: "Ты запісаўся ў ПКБ?" За спіною ў чырвонаармейца дымяць здаравенныя трубы. Дым чамусьці таксама чырвоны. Колер, відаць, сімвалізуе, што заводы савецкія. А можа, і нешта іншае: маўляў, не запісаўся ў ПКБ — пойдзеш у крэматорый.

У цэнтры ліста яскравы прыклад насценнай публіцыстыкі — артыкул "Обуздать национал-фашизм"

"...Последыши всех этих Островецких и Калубовичей, Кушелей и Арсеньевых, Рагуль и Станкевичей, Кипелей и Мерляков, Случчанинных и Витьбичей (спіс можна было б прадоўжыць імёнамі Кастуся Каліноўскага, Тадэвуша Касцюшкі, Валерыя Урублеўскага... — К.А.) боятся новой победы народа. Поэтому они против президента. Устраивают провокации (відаць, маецца на ўвазе ліозненская стральба па аўтамабілі будучага прэзідэнта. — К.А.), запугивают народ моральным и физическим террором (збіваюць дэманстрантаў дубінкамі, труцяць газам, кідаюць за краты... Так? — К.А.), глумятся над нашей исторической памятью (яшчэ як здзекуюцца: забаранілі спракаветны бел-чырвона-белы сцяг, перарабляюць вучэбнікі па гісторыі. — К.А.), потешают публику смехотворными голодовками (толькі нельга можа назваць галадоўку смехатворнаю. — К.А.).

Пусть никого не смущает, что среди бэнээфовских провокаторов затесались и несколько бывших военнослужащих СА и партизан, вроде отставного писателя и вторящего ему в рифму пастушка из партизанской зоны (талент "отставного писателя" прызнаны ва ўсім свеце, а вось тым, хто на яго "гаўкае", як тая моська на слана, вышэй насценнай творчасці не лепшага гатунку ніколі не падняцца. — К.А.). Эти политические власовцы и литературные полицаи никого сейчас не представляют... (Гэта, відаць, пра ўвядзенне ў рэспубліцы цэнзуры. Гм, як жа іх прозвішчы, гэтых "литературных полицаев", якія забараняюць няўгодныя газеты, дыктуюць, што можна пісаць, а што нельга? — К.А.).

Заканчваецца душашчыпальная бравада паведамленнем, што беларускі народ сёння разам з прэзідэнтам за мір, хлеб, стабільныя цэны, танны транспарт, танныя лекі, таннае жыллё... Як быццам бы ёсць такія, хто супраць усяго гэтага. Праўда, за цэнамі забыліся напісаць пра духоўнасць. А можа, духоўнасць — якраз тое, што розніць камуністаў і дэмакратаў?

Я б запытаўся пра гэта ў стваральнікаў сценгазеты, але яны не назваліся. Відаць, з-за сціпласці. Навошта выдзяляцца — орган жа калектыўны.

**Кастусь АНАНІЧ.**

У Кобрыне ды іншых раёнах Беларусі бальшавіцка-сталінскія прыблуды зноў робяцца па-хамску нахальнымі... А беларусы маўчаць..., але як яшчэ доўга?!

## ПРЫСЛАНЫЯ НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ...

**"Кантакты і Дыялёгі"** — інфармацыйна-аналітычны і культурны бюлетэнь, Май 1996, № 5, 50 стар. Заданьне бюлетэню пашыраць кантакты паміж краінамі, культурамі, нацыямі. Выданьне вельмі патрэбнае, карыснае і рэдагуецца на адпаведным узроўні. Пажадана: пабольшыць шрыфт і палепшыць паліграфічную шату...

* * *

**"Вятрыска з радзімай краіны"**, Янка Золак (Антон Даніловіч). Збор выбраных твораў, выданы ў 1996 г. у Менску, 311 старонак. Кніга прэзэнтуецца вельмі добра, выдрукавана на добрай паперы ды пераплецена ў цьвёрдую, прыгожую вокладку.

* * *

**"Роднае слова"** — штомесячны навукова-мэтадычны часопіс, заўсёды прыгожа ілюстраваны ды з выдатным падборам цікавых матэрыялаў. Вельмі карыснае беларускае выданьне. № 4, 1996, 256 стар.

# Жыве мова — жыве нацыя

"Народная газета"

***26 студзеня 1990 года ў Беларусі адбылася вялікая падзея, якую можна аднесці да гістарычных падзей нашай краіны. Менавіта ў гэты дзень Вярхоўны Савет БССР XI склікання прыняў Закон "Аб мовах у Беларускай ССР". Закон быў прыняты дэпутатамі, якія выбіраліся ў Вярхоўны Савет у 1985 годзе, пад непасрэдным кіраўніцтвам КПБ. У другім артыкуле закона было запісана: "... дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова".***

У народзе кажуць: каб зазірнуць наперад, трэба азірнуцца назад. І сапраўды, калі мы азірнёмся назад, то павінны адзначыць: камуністы, якія ў тыя гады складалі пераважную большасць у Вярхоўным Савеце, добра разумелі, што азначае вырашэнне гэтага пытання для развіцця роднага краю, для нашай любай Радзімы.

Мне цяжка зараз уявіць, што знойдуцца людзі, якія не пагодзяцца са словамі ва ўступнай частцы закона: "Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву".

На мой погляд, дакумент атрымаўся ўзважаным і добра падрыхтаваным. Складаецца ён з шасці раздзелаў і ўключае 36 дэталёва распрацаваных артыкулаў. У законе вызначаецца статус не толькі беларускай мовы як дзяржаўнай, але і рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР, а таксама іншых моў, якія ўжываюцца ў Беларусі.

У пастанове Вярхоўнага Савета "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР" дэпутаты Вярхоўнага Савета вырашылі ўводзіць у дзеянне палажэнні закона паступова, на працягу 10 год — з 1 верасня 1991 года да 1 верасня 2000 года.

Гэты дзесяцігадовы тэрмін у сваю чаргу разбіты паартыкульна на чатыры перыяды.

Усё збалансавана, дакладна і зразумела.

Але дэпутаты Вярхоўнага Савета на гэтым не спыніліся, а пайшлі далей і прынялі Закон "Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі (1978 г.) (Асноўнага Закона) Беларускай ССР", у якім запісалі:

"Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.

Парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у Беларускай ССР вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР".

Як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як былы Старшыня Вярхоўнага Савета і як сённяшні дэпутат Вярхоўнага Савета я глыбока ўдзячны дэпутатам XI склікання за гэты закон і буду падкрэсліваць гэта ўсюды і заўсёды.

Я сумняваюся, што сённяшнія дэпутаты здолелі б прыняць такі закон. Хаця справа не ў гэтым.

І ўсё было б добра, але... Вельмі складана распрацаваць і прыняць дакладны закон па такому важнаму пытанню, яшчэ больш складана правесці яго ў жыццё.

Аналізуючы стан выканання артыкулаў Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" пасля шасці год з дня яго прыняцця, можна зрабіць ужо і пэўныя вывады, на вялікі жаль, не вельмі суцяшальныя.

Што датычыцца дзевяці артыкулаў, якія ўведзены ў дзеянне з 1.09.90 года, нельга не звярнуць увагу на тое, што большасць рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый за шэсць год так і не стварылі спрыяльных ўмоў для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі, як гэтага патрабуе пункт 5 артыкула 2.

Згодна з артыкулам шостым, арганізацыя выканання закона аб мовах ускладзена на Кабінет Міністраў і выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў, якія ў апошні час гэтай справай не займаюцца, а калі нешта і робяць, то складваецца ўражанне, што не на карысць закона, а супраць яго.

З сямі артыкулаў, якія прадугледжвалася выканаць да 01.09.93 года, застаюцца часткова не рэалізаванымі тры артыкулы за нумарамі 28 (Мова ў сферы культуры), 29 (Мова сродкаў масавай інфармацыі) і 31 (Мова аб'яў і паведамленняў).

Тры артыкулы, якія прадугледжвалася рэалізаваць у перыяд ад трох да пяці гадоў, засталіся часткова не выкананы.

Частка першая артыкула 4 (Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, прадпрымальнікаў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі) таксама не рэалізавана.

Не выконваюцца п.І і ІІ артыкула 7 (Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання), п.І артыкула 12 (Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў).

Выкананне іншых артыкулаў, прадугледжанае да 2000 года, можна было б не разглядаць, але ж неабходна адзначыць, што прайшло ўжо шэсць гадоў з моманту прыняцця Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", а з тых 10 артыкулаў пакуль што рэалізаваны толькі чатыры, ды і то часткова — 22 (Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове), 24 (Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах), 25 (Мова навучання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах), 26 (Уступныя экзамены на мове).

Апошнім часам многае з таго, што было дасягнута, страчана, фактычна незаконна адменена.

На мой погляд, да майскага рэферэндуму 1995 года адносіны да Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" былі больш уважлівыя, патрабавальныя і строгія. Нават адзначаліся перабольшванні патрабаванняў і злоўжыванні пры ўвядзенні беларускай мовы ў школах і іншых навучальных установах.

Напрыклад, у большасці сельскіх раёнаў наогул не засталося сярэдніх рускіх школ. Хоць пэўная колькасць бацькоў і дзяцей выказвалі жаданне вучыцца ў рускіх школах. Такіх прыкладаў дастаткова. Людзі проста не разумелі новых падыходаў. Ды і нельга далікатную справу рабіць хуткімі тэмпамі, таму што з'яўляецца шмат памылак, якія абавязкова выкарыстаюць тыя людзі, якія выступаюць супраць беларускай мовы. На вялікі жаль, так у нас і здарылася.

Пасля правядзення майскага рэферэндуму адносіны да закона і асабліва да беларускай мовы рэзка змяніліся ў горшы бок.

Зараз у школах пачалі пераводзіць дзяцей, якія чатыры гады правучыліся на беларускай мове, у класы з рускай мовай, што, вядома, адмоўна адбілася на навучанні дзяцей.

Адпаведныя падыходы робяцца і ў іншых навучальных установах.

Прыкра, але не адстаюць ад дзяцей і моладзі ў гэтым накірунку і дарослыя. Я маю на ўвазе работнікаў дзяржаўных ўстаноў, прадпрыемстваў і іншых арганізацый. Ва ўстановах і арганізацыях практычна нічога не робіцца ў арганізацыйным і тэхнічным плане для выкарыстання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Ніхто належным чынам не кантралюе гэтае пытанне. Усё радзей і радзей гучыць беларуская мова ў вышэйшых дзяржаўных установах.

Нават у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь яе рэдка пачуеш. Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія добра ведаюць беларускую мову, далёка не заўсёды карыстаюцца ёю пры выступленнях. Не стала абавязкам рыхтаваць праекты дакументаў на роднай мове.

Няўжо трэба ехаць за мяжу, каб выступаць па-беларуску? Відаць, некаторыя лічаць, што лепей, а галоўнае прасцей, карыстацца звыклай "трасянкай", чым дасканала валодаць і беларускай, і рускай мовамі. Зразумела ж, мову некаторай часткі нашага насельніцтва аднесці да чыстай рускай мовы ніяк нельга. І я ўпэўнены, што беларусы ніколі не будуць размаўляць на чыстай рускай мове.

Цяпер аб рэферэндуме, які адбыўся 14 мая 1995 года, дзе ставілася пытанне: "Ці згодны вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай?" У галасаванні прынялі ўдзел 4.830582 чалавекі, або 64,8%, 2.615.238 чалавек (35,2%) не ўдзельнічалі ў галасаванні. Акрамя таго, 613.516 (12,7%) чалавек прагаласавалі супраць, і, нарэшце, 192.693 (4,0%) бюлетэняў аказаліся несапраўднымі.

Такім чынам, станоўча не выказаліся за роўнасць рускай і беларускай мовы 3.421.447 чалавек — гэта амаль палова выбаршчыкаў, якія былі ўключаны ў спісы для галасавання. Таму я лічу, што няма грунтоўнай падставы ўсюды заяўляць аб рашучай перамозе прыхільнікаў двухмоўя, бо тры з паловай мільёны насельніцтва — гэта ж нашы людзі, і не лічыцца з іх думкай нельга.

Акрамя таго, нядрэнна было б улічыць колькасць грамадзян Рэспублікі Беларусь, рускіх па нацыянальнасці, што прынялі ўдзел у галасаванні. Тады вынікі гэтага галасавання ўвогуле станууць адмоўнымі.

Мяркую, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь трэба дэталёва вывучыць гэту праблему і прыняць адпаведнае рашэнне.

Але пакуль што дэпутатам Вярхоўнага Савета і ў першую чаргу Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры неабходна ўзяць пад кантроль выкананне Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", прынятага ў 1990 годзе, і патрабаваць ад выканаўчай улады рэалізацыі запланаваных мерапрыемстваў.

Спадзявацца на тое, што гэта зробіць сама выканаўчая ўлада, нельга.

Тым больш што ні Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, ні вынікі рэферэндуму не змянілі статус беларускай мовы як дзяржаўнай. У артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: "Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.

Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін".

Я цвёрда перакананы, што ў Беларусі, як і ў любой іншай дзяржаве, павінна быць свая родная мова, бо калі ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

На мой погляд, гэтыя вывады для нас, беларусаў, маюць асаблівы сэнс і асаблівую значнасць.

Цяжка знайсці ў свеце краіну, якая, будуючы прававую дзяржаву, стварае розныя таварыствы па абароне ці ў падтрымку роднай мовы, мовы нашых бацькоў.

**Мечыслаў ГРЫБ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета**
**ад 129-й Дзятлаўскай выбарчай акругі.**

# КДБ працуе на трубе...

"Народная Воля"

Супрацоўнікі Упраўлення КДБ Віцебскай вобласці павінны быць удзячнымі незнаёмцу (або групе людзей), што прымацаваў да верху трубы Віцебскай ЦЭЦ у ноч з 13 на 14 мая два бел-чырвона-белыя сцягі. У следчых правінцыяльнай спецслужбы з'явілася, нарэшце, магчымасць паспрабаваць свае сілы ў падзабытай справе палітычнага вышуку. Бо ніяк жа не назавеш гэтае здарэнне звычайным хуліганствам: гістарычныя сімвалы ўзнесены на 100-метровую вышыню да гадавіны прэзідэнцкага рэферэндуму аб інтэграцыі з Расіяй, змене дзяржаўных сцяга і герба, а таксама ў сувязі з новым святам, якое ў гонар сваіх улюбёных атрыбутаў абвісціў А.Лукашэнка.

Адміністрацыя ЦЭЦ упэўнена, што ніхто з персаналу станцыі не мог узлезці на трубу, бо ў штаце няма вышыннікаў. Хутчэй за ўсё, маўляў, сцягі ўздымалі рабочыя сталічнага ўпраўлення "Белспецэнерга", якія вядуць рамонт катлоў і трубаправодаў цеплаэлектрацэнтралі. Сярод прыезджых ёсць прафесійныя верхалазы. Трое з іх — Васіль Волкаў, Вячаслаў Шылкоў і Міхалай Ваткевіч — з дапамогай страхуючага іх знізу Міхалая Краўчанкі выканалі "сацыяльны заказ": узабраліся на трубу і знялі "неафіцыйныя" палотнішчы. Дазвол на гэтую аперацыю даў галоўны інжынер "Белспецэнерга" Аляксандр Петрашкевіч. А для таго, каб матэрыяльна заахвоціць хлопцаў (які ж дурань палезе пад аблокі за адно "дзякуй"), кіраўніцтва ЦЭЦ заключыла з імі працоўнае пагадненне і афарміла нарад на спецработы: агляд стану лесвіц і пляцовак на трубе.

Вінаваціць верхалазаў у тым, што яны згадзіліся на супрацоўніцтва з уладамі, вядома, можна. Але будзем да іх памяркоўнымі: па-першае, калі б яны адмовіліся, знайшліся б іншыя; па-другое, грошы зараз ні для каго не лішнія, а па-трэцяе, не выключана, што сцягі здымалі якраз тыя ж, хто іх вешаў (самі мацавалі. самі і скінулі?).

Праўда, упэўненасць дырэктара ЦЭЦ Леаніда Шашкова ў тым, што мясцовыя энергетыкі на такі подзвіг няздатныя, выклікае сумненне. Некалькі гадоў таму нехта ўпрыгожыў тую ж трубу мужчынскім і жаночым імёнамі з дадаткам у выглядзе слова "кахание". Так што, магчыма, мінчане тут і ні пры чым, хоць вопыт у іх, безумоўна, большы: па словах таго ж А.Петрашкевіча, дымавыя трубы сталіцы Беларусі ўжо некалькі разоў выконвалі ролю флагштокаў для бел-чырвона- белых сцягоў. А пачыналася выкарыстанне гэтых вышынь вальнадумцамі ў гарбачоўскія часы, калі на адной з труб Мінска з'явіўся надпіс: "Рая".

Пакуль што канкрэтныя непрыемнасці ад акцыі ў Віцебску атрымалі службовыя асобы, якія адказваюць за ахову ЦЭЦ. Згодна з загадам дырэктара, яны будуць мець вымовы і пазбавяцца прэміяльных. Астатняе — справа афіцэраў УКДБ. Яны ламаюць галаву над тым, хто шыў сцягі (вывучаюць паходжанне тканіны, нітак і г.д.), каб праз гэтыя ўлікі "выйсці" на імёны "злаўмыснікаў".

Даўно вядома, што забарона чаго-небудзь выклікае ў людзей жаданне парушыць тую забарону. Асабліва, калі яна датычыць асабістых перакананняў, палітычных поглядаў. Чым большую нянавісць ва ўладных колах выклікае сімволіка нашых далёкіх продкаў, тым больш у яе будзе прыхільнікаў. Для велізарнай колькасці людзей (і асабліва — моладзі) бел-чырвона-белы сцяг заўсёды будзе спалучацца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі, адкрыццём далягляду яе самастойнага развіцця ва ўмовах супрацоўніцтва з іншымі суверэннымі краінамі. Улада, якая не разумее гэтага, не можа разлічваць на падтрымку найбольш прагрэсіўных сіл грамадства.

**Сямён ЗАРЭЦКІ.**

Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?

# Блытаніна сярод "трох соснаў", альбо Пра рану, якая краваточыць шматтысячнымі мітынгамі

"Народная Воля"

Слухаючы высокапастаўленых асоб, лёгка заўважыць: яны альбо самі блытаюцца ў элементарных паняццях, альбо з усяе сілы імкнуцца заблытаць нас.

**Чаго варты адны заявы наконт суверэнітэту**

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі запэўнівае, што дамова з Расіяй ні ў якім разе не парушае суверэннасці Беларусі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сцвярджае: "Заявы аб тым, што Беларусьператворыцца ў Паўночна-Заходні край, уключаецца ў састаў Расіі — гэта наўмысная і нахабная хлусня... Ні аб якой страце незалежнасці, здачы суверэнітэту размова не ішла і не ідзе".

Ну што ж, давайце разбярэмся, хто хлусіць. Для пачатку высветлім, што азначае гэты заморскі тэрмін "суверэнітэт". Перада мною капітальная навуковая праца "Слоўнік замежных слоў", у падрыхтоўцы якога прымалі ўдзел каля 40 буйных вучоных Расіі, якія добра разумеюць значэнне паняццяў. Ну дык вось: **"Суверенитет — полная независимость государства от других государств в его внутренних делах и внешних отношениях".** Заўважце, "поўная незалежнасць". Суверэнітэту не бывае на 90 ці 60 працэнтаў.

А што мы маем пасля дамовы з Расіяй? А мы ўжо маем агульны выканаўчы камітэт на чале з расійскім прэм'ерам Чарнамырдзіным, рашэнні якога абавязковыя да выканання. Мы павінны цяпер узгадняць з суседняй краінай сваё заканадаўства, свае адносіны з іншымі дзяржавамі і многае, многае іншае. Вось вам і "полная независимость от других государств".

Паверце, я не супраць разумнага ўзгаднення некаторых пытанняў з любой краінай. Без гэтага нельга будаваць нармальныя адносіны з суседзямі. Але ці не атрымаецца, што пасля падпісання дагавора мы проста будзем "плясать под диктовку России". Нявыгадна ёй, напрыклад, тое, што ў Беларусь паступае многа танных машын з Захаду, і яна, я ўпэўнены, усё зробіць, каб мы пазбавілі сваіх людзей такой магчымасці.

Дык у нас жа застаецца свой парламент, прэзідэнт, урад, свая Канстытуцыя і сцяг, — усё яшчэ спрабуюць пераконваць адказныя асобы. — Хіба гэта не доказы суверэннасці Беларусі?

Усё гэта — і свой урад, і парламент мае і нямецкая зямля Ніжняя Саксонія. Чаму ж вы не ўстанаўліваеце з ёю дыпламатычныя адносіны? Усё гэта — і парламент, і ўрад, і свайго прэзідэнта, і сцяг — мае і Татарстан. Але хіба ён з'яўляецца самастойнай дзяржавай? Дык які "суверэнітэт" вы рыхтуеце Беларусі? Такі, як у Татарстана?

Усё гэта — і прэзідэнта, і парламент, і сцяг — мае і Чэчня. Але ейны "суверэнітэт" не перашкодзіў Расіі ўвесці туды свае войскі і размалаціць амаль усе гарады і вёскі. Вы хочаце такога лёсу і Беларусі?

Тады так і кажыце народу. А то спярша дурылі галаву рублёвай зонай, потым абяцалі зніжэнне цэн. Потым пераконвалі, што для поўнага шчасця не хапае вяртання чырвонага камуністычнага сцяга... Ну вярнулі яго. І ці сталі жыць лепей? Цяпер вось, аказваецца, трэба аднавіць СССР і імперыю.

Тое, чаго не разумеюць ці скрываюць нашы палітыкі, на ўвесь голас распавядаюць расійскія. Вядомы Жырыноўскі з характэрнай для яго адкрытасцю выкладае: калі ў нас будзе агульнае заканадаўства і агульнае войска, дык няхай сабе застаецца і назва Беларусь і гучыць гэтак жа, як і слова Волагда. Бо гэта ўжо не мае сэнсу, як яе называць: Беларусь ці Паўночна-Заходні край.

Што праўда, то праўда.

**Такія ж эмацыянальныя заявы мы чуем і наконт таго, што нашы дзеці не будуць ваяваць у Чэчні ці іншых "гарачых кропках" Расіі.**

"Крыкі аб тым, што з заключэннем дагавора беларусы паедуць у Чэчню, — гаворыць прэзідэнт, — адкрытая і нахабная хлусня. Гэтага ніколі не будзе".

Моцна сказана. Але, на мой погляд, не пераканаўча. І чым больш настойліва даказвае прэзідэнт, тым мацней баліць сэрца нашых бацькоў.

Бо мы бачым, як па тэлевізару запэўнівае ўвесь свет прэзідэнт расіі Ельцын, што баявыя дзеянні ў Чэчні спынены, і ў гэты ж самы момант расійскія самалёты і гарматы знішчаюць цэлыя вёскі чэчэнцаў. Растлумачце нам: чаму гэтыя ваякі будуць слухацца Лукашэнку, калі яны не слухаюцца Ельцына? Нарэшце, няўжо вы забыліся пра нафтавы і газавы кранікі, якія знаходзяцца ў Расіі? Няўжо не памятаеце, як перакрывалі яго ў Прыбалтыку, на Украіну? Ну дык вось, калі на вуліцы будзе мінус 20 і вам голас з Масквы скажа: альбо накіруеце брыгаду дэсантнікаў з Віцебска на Каўказ, альбо адключаем цяпло і святло ва ўсіх хатах Беларусі, дык вы што -- не згадзіцеся? Вы вымушаны будзеце паслаць і з Віцебска, і з іншых месц. Так што не супакойвайце ні сябе, ні грамадзян шкоднымі ілюзіямі. Палітыка павінна будавацца не на іх, а на грунце суровай рэальнасці і гістарычнага вопыту.

**Шмат гаворыцца пра нейкія эканамічныя выгады, якія нібыта прынясе саюз Расіі, Беларусі, Казахстана і Кыргызстана**

Той самы, які ў народзе ўжо ахрысцілі як саюз "дзвюх вушанак і дзвюх цюбецеек". Колькі ні разважаю, ніяк не магу зразумець: што роднiць Беларусь з тым жа Кыргызстанам? І якія эканамічныя выгады нясе супрацоўніцтва з ім?

Цікаўлюся нашымі эканамічнымі стасункамі. Экспарт Беларусі ў краіны СНД выглядае так: на Расію прыпадае 79,8%, на Украіну — 14,9%, далей ідзе Малдова (1,7%), Казахстан (1,7%), Узбекістан (1,2%). А дзе Кыргызстан? Ён уваходзіць у групу "ўсе астатнія", доля якіх складае 0,7%. У аб'ёме імпарта краін СНД на Расію прыходзіцца 90,5%, на Украіну — 7%, Казахстан — 1,1%, Узбекістан — 0,7%, Малдову — 0,4%. А дзе Кыргызстан? Усё ў той жа групе "ўсе астатнія" з агульнай доляй 0,3%.

Не трэба быць аналітыкам і палітыкам, каб зразумець, што ў саюзе з Кыргызстанам і Казахстанам мы не маем ніякага значнага эканамічнага інтарэсу і тым больш вялікай выгоды. Гэты саюз проста цешыць расійскія імперскія амбіцыі.

А дзе ж наш эканамічны інтарэс? Прадоўжым вывучэнне эканамічных стасункаў. Цяпер ужо з нашымі суседзямі, якія не ўваходзяць у СНД. Ну дык вось, у структуры экспарта сярод дзяржаў так званага далёкага замежжа важнейшымі партнёрамі сталі: Германія (16%), Польшча (12,1%), Літва (8,4%), Латвія (5%). У структуры імпарту — Германія (26,8%), Польшча (12,7%), Літва (5,5%), Італія (5,3%)...

Вось дзе трэба выкопваць пагранічныя слупы і здымаць мытныя бар'еры! Тым больш што па сваёй якасці вырабы і тэхналогіі Германіі і Польшчы намнога пераўзыходзяць тыя, якія ідуць з Усходу. А ўлады па ўказцы Масквы якраз тут узмацняюць мяжу, збіраюцца закрыць заходнюю і паўночную граніцу, як гаворыць кіраўнік расійскай аператыўнай пагрангрупы на Беларусі генерал Марцюшын, на "надзейны замок".

**Дзе логіка?**

**Яе не відаць і ў нейкім міфічным жаданні "аднавіць разарваныя эканамічныя сувязі"**

Што яны збіраюцца аднаўляць? Ніякіх прамых сувязей паміж прадпрыемствамі ў былым Савецкім Саюзе не было. Было Палітбюро ЦК КПСС, якое і вырашала, колькі, скажам, трактароў Беларусь павінна паставіць у Казахстан, Малдову і колькі пшаніцы і вінаграду паступіць адтуль да нас. Каб запланаванае яшчэ выкалаціць, ехалі туды штурхачы з ахапкай гасцінцаў. Ніводны завод не мог распачаць выпуск ніводнай буйной навінкі, калі на гэты конт не было рашэння Палітбюро, у якім распісвалася, колькі і якіх гаек павінен паставіць яму кожны рэгіён...

Вось і ўсе эканамічныя сувязі. Як іх цяпер аднавіць? Для гэтага трэба зноў вярнуць у Крэмль Палітбюро ЦК КПСС і ўсю ўчарашнюю сістэму. Дык што, мы павінны, як ракі, заўжды рухацца толькі назад? Аднаўляць трэба дзеяздольнае, а не мёртвае. Па-другое, тыя сувязі, якія выгадныя для абодвух бакоў, яны, здаецца, і самі будуць мацавацца. Ды і ніхто не супраць нармальных інтэграцыйных працэсаў як з Усходам, так і з Захадам.

**А колькі льецца слоў аб нібыта векавой дружбе паміж рускімі і беларусамі**

Не дай Божа нікому менавіта такой "дружбы", якую памятае гісторыя. Бадай, нідзе ў свеце не пралілося столькі крыві, як на беларуска-расійскай мяжы. У выніку гэтай "дружбы" ў нас адабралі мову, культуру, гісторыю, нацыянальную адукацыю. Трагедыяй стала для Беларусі расійскае нашэсце, якое распачаў у 1654 годзе цар Аляксей Міхайлавіч. Тады загінула 52 працэнты насельніцтва Беларусі. Кожным трэцім жыццём сваіх дзяцей паплацілася наша краіна за развязаную Пятром І Паўночную вайну. Вайна Расіі з Напалеонам каштавала беларусам мільёна чалавек, кожнага чацвёртага...

Замяніць сапраўдную гісторыю, якую ведае Еўропа і свет, байкамі і хлуснёй не ўдасца.

Я не буду гадаць, чаму нашыя дзяржаўныя чыноўнікі заблудзіліся сярод трох соснаў — ці то ад недахопу добрай адукацыі, ці то ад былога ідэалагічнага замбіравання... Зазначу галоўнае. І дамовай з Расіяй, і сваімі заявамі аб ёй улады, я лічу, ужо нанеслі рану Бацькаўшчыне, якая краваточыць шматтысячнымі мітынгамі і шэсцямі па гарадах Радзімы. Тую самую рану, аб якой буйнейшы еўрапейскі мысліцель Гюго гаварыў, што яе і праз стагоддзі адчуваюць у глыбіні душы сапраўдныя грамадзяне.

Ад сябе дадам: гэта рана можа стаць гангрэнай для тых палітыкаў, якія нанеслі яе свайму народу.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**



# О НАЦИОНАЛЬНЫХ ГОРЕСТЯХ БЕЛОРУСОВ

Евгений РАДКЕВИЧ,
профессор, доктор филологических наук

БЕЛОРУССКАЯ ДЕЛОВАЯ ГАЗЕТА

**Современные публицисты любят смелые аналогии. Чуть побольше творческой дерзости -- и можно было бы даже покруче, чем у Юрия Дракохруста (см. «БДГ» от 18.03.96) «О национальной гордости белорусов». Одну буковку поменять, а насколько ближе к оригиналу. Как известно, Ленин взялся за свою статью в начале первой мировой войны, опасаясь, что его призыв добиваться поражения Российской империи будет враждебно встречен на родине. Так оно и случилось, поэтому он разъяснял товарищам (и сочувствующим), что большевики -- не какие-то выродки, а просто не любят Романовых.**

И мне несколько невдомек, почему это Ю. Дракохрусту захотелось вызвать в нашей памяти семинары по истории КПСС, на которых мы в свое время бойко шпарили цитатами из Ильича, подсознательно и себя подводя под понятие «великороссов». Поводов говорить о национальной гордости (или горести) у нас хоть отбавляй, но вот так-то зачем, в непосредственной близости от мыслей Ильича?.

Впрочем, на то воля автора. Наша же воля в том, чтобы не согласиться с некоторыми заключениями публициста, которого, признаться, читаешь обычно с увлечением. Так, по его версии выходит, будто русский язык стал у нас народным. Если автор имеет в виду близкий круг своих знакомых, полагаю, достаточно образованных и умеющих правильно говорить по-русски, тогда все понятно. Но это еще не народ. По-каковски, к примеру, произносит свои пламенные речи наш президент, всенародно избранный и плоть от плоти народа? По-русски? Нет уж, извольте...

Или вот свежее впечатление. Сельская учительница-пенсионерка о своем враче: «*Ен мяне так абадрал*». -- «*Как, он посмел что-то взять у вас?*» -- «*Да не*, -- смущается женщина, -- *ен дужа памог мне, маральна абадрал*». С трудом понимаешь, что так звучит у нее русское «ободрял». Да, такой он, русский в устах белоруса, причем не совсем и темного.

Далее Ю. Дракохруст пишет, что национально мыслящая интеллигенция пыталась преобразовать белорусов в «нормальную» нацию и что все это окончилось безрезультатно. На мой взгляд, не следовало бы так легковесно представлять сложный и трудный процесс белорусского Возрождения, начавшийся в середине 80-х годов. Да, национально мыслящей интеллигенции во многом не удалось достичь своих целей, и мы стали свидетелями очередного кризиса белорусской идеи. Но сама нация существует уже столетия, задача же интеллигенции заключалась и заключается в том, чтобы хоть как-то расчистить тяжкие завалы на путях развития национального самосознания, и не более того. Острота проблемы с годами ощущается все сильней. Особенно обострилась она в последнее время, ибо стала предметом политических спекуляций, беспрецедентных по своему цинизму и упрощенно-прагматическому подходу. Взять хотя бы печально известный майский референдум по вопросу придания статуса государственного русскому языку, который и без того успешно конкурировал с белорусским. Таким образом была подорвана правовая основа для развития белорусского языка, возникшая после принятия в начале 1990 г. Закона о языках, придавшего белорусскому статус единственного государственного в стране.

Не касаясь нравственных и политических аспектов, связанных с проведением референдума, заметим, что, по мнению некоторых отечественных филологов, эта правительственная акция становится в ряд наиболее трагических для белорусской нации событий, таких, как принятие в 1696 г. Варшавским сеймом постановления об изъятии белорусского языка из сферы служебного делопроизводства; запрет печатания на белорусском языке после удушения освободительного движения в 1863 г.; разгул сталинского террора конца 20--30-х годов; наконец, предоставление во второй половине 50-х годов XX столетия права родителям освобождать своих детей от изучения белорусского языка и выбирать так называемый «рабочий язык» общеобразовательной школы, в результате чего школа оторвала от исторических и национальных корней миллионы молодых людей.

Если не считать белорусов какой-то исключительной нацией, которая якобы добровольно отказывается от родного языка и принимает близкий язык другой страны, то легко представить, какой длительной и упорной была кампания по вытравливанию национального самосознания народа, чтобы большинство его высказалось на вышеупомянутом референдуме против государственной атрибутики, связывающей нас с далекими предками, против безусловного приоритета родного языка в своей стране, да и практически против государственной независимости этой страны.

Но в том и сложность анализа феномена белорусской нации, что очевидные факты, свидетельствующие о недостаточном развитии национального самосознания, соседствуют со столь же очевидными, утверждающими менталитет белорусов, заставляющими

говорить о духовной стойкости белорусов, которая позволила им сохранить национальную самобытность в условиях непрекращающейся дебелоруссизации на протяжении столетий. Несмотря ни на что, нация сумела сохранить основы языка, а во время референдума более миллиона белорусов высказалось в пользу родного языка, национальных символов, государственной независимости.

Сегодняшняя экономическая, политическая и социолингвистическая ситуация в Беларуси требует пристального внимания мировой общественности к происходящим в ней процессам, ибо здесь, в центре Европы, в посткоммунистические, как принято говорить, времена под прикрытием громких политических спектаклей вроде недавнего референдума или проводящейся ныне интеграции откровенно нарушаются права человека, дерзко и безнаказанно попираются общечеловеческие ценности, и в результате образуется тоталитарное государство. Государственные масс-медиа, а именно они заполняют информационное пространство Беларуси, как и в коммунистические времена, выражают только правительственную точку зрения, распространяя беззастенчивую ложь и дезинформацию.

Нельзя сказать, чтобы действовавший в стране Закон о языках существенно изменил ситуацию в Беларуси в пользу национального языка. Однако некоторые сдвиги наметились. При поступлении в высшие и средние учебные заведения в обязательном порядке надо было сдавать экзамен по белорусскому языку, что повысило требования к его преподаванию в школе. Некоторые руководители стали использовать белорусский язык в общении с подчиненными, на белорусском языке в парламенте заговорила оппозиция, а спикер С. Шушкевич вел на нем заседания. Ряд популярных газет начал работать на принципах билингвизма. Но в целом все оставалось по-старому, и теперь утверждать, что в те годы проводилась принудительная белоруссизация, как это делают старающиеся угодить президенту функционеры, значит, привычно сворачивать на милые им пути фальсификаторства.

В действительности же, как и во многих других случаях, начавшийся поворот к национальному самовозрождению встретил яростное сопротивление антибелорусских сил как внутри республики, так и за ее пределами. Возглавили антибелорусскую кампанию коммунистические организации. Главным же выразителем их идей стал А.Лукашенко. Некоторые его поступки как государственного деятеля не поддаются пониманию с позиций здравого смысла. Так, он одобряет самовольное возвращение аборигенов в зараженную радиацией чернобыльскую зону, игнорируя заключения авторитетнейших ученых мира; перед парламентскими выборами он, первое должностное лицо в государстве, призывает население к неучастию в выборах; он же организует постыдный для нации референдум, акцентируя внимание мировой общественности на национальном нигилизме белорусов, используя этот нигилизм в неблаговидных политических целях. Неразборчивый в средствах президент, зная наперед результаты референдума, что не составляло большого труда, сделал их аргументом в пользу экономического и политического сближения с Россией.

Таким образом, белорусский язык стал жертвой политической игры, демонстрацией того, что белорусы признают государственность русского языка в Беларуси, желают объединения с Россией и на этом основании российское правительство не имеет права отказать в поддержке, экономической и какой угодно, правительству президента Лукашенко. Одновременно нанесен удар и по белорусскоязычной оппозиции: не вас, мол, народ поддерживает.

В рядах оппозиции, естественно, уныние. Но так ли уж безнадежны для белорусской идеи результаты референдума? Повторяю, что в поддержку родного языка высказалось более миллиона человек, это примерно четвертая часть принявших участие в голосовании. Число очень и очень внушительное. А недавние манифестации протеста против объединения Беларуси с Россией, так разгневавшие А.Лукашенко, манифестации преимущественно молодежные, показали тем, кто хотел бы растоптать нашу национальную идею, что она неистребима и имеет свои ростки в завтрашнем дне.

Люди ведут тяжелую борьбу за кусок хлеба, за выживание. Им недосуг разбираться в тонких вопросах языковой и культурной политики. Их оценки и симпатии неустойчивые, спонтанные. Увидели по телевидению президента Лукашенко, послушали его напористые, всегда эмоционально агрессивные речи, в которых он выступает в роли народного заступника, которому не дают осчастливить народ разные оппозиционеры-националисты, -- и зачесали в затылках: а может, оно и впрямь так? Оппозиционерам ведь нет доступа к экрану. Простому человеку внушают: не так уж и важно, на каком языке говорить, главное...

Но в том-то и дело, что нет чего-то главного, как ни ищи его вокруг: ни в парламенте, ни на рынке, ни в семейном лоне. Нет достоинства и чести, которые всегда в человеческом сообществе были намного ценнее, нежели еда и добротное жилище. И потому можно нищенской подачкой заткнуть рот, едва открывшийся для протеста, таким-сяким тряпьем закрыть позорную наготу безродства. Так было во все века: не имели рода разнообразные авантюристы и люмпены. Вспомните, как расцветал авантюризм в эпоху пролетарского интернационализма. Возведенный в ранг государственной политики, он держал в страхе весь мир. Взлетали к постам генсеков и президентов и тянулись друг к другу с поцелуями кровавые политиканы, властолюбцы, диктаторы, которые закабаляли свой народ, лишали его простейших человеческих радостей. Все они были и есть интернационалисты, объединенные не благородными гуманистическими идеями, а давней родовой приметой хамства, необразованности, презрением к культуре и заветам предков.

В ряду бесспорных человеческих ценностей, которые отстаивает цивилизованный мир, должно находиться и сохранение полноценной жизни этносов, над которыми нависла угроза исчезновения. Наивно думать, будто кто-то за белорусов будет решать их проблемы. Но непростительно также не замечать трагизма их судьбы, не проявлять сочувствия и поддержки тем, кто в неравной борьбе стремится вернуть своему народу его язык и культуру, не понимать этого стремления. Понять -- не означает ли и поддержать?

# IRO - AREA 6

# OLYMPIC GAMES 1949

## at Mittenwald on $7^{th}$ – $12^{th}$ of July

## Jäger-Pionier-Kaserne

### PROGRAM:

**THURSDAY $7^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $14^{00}$ | Opening | |
| $15^{00}$ | Football | Czechs - Ukrainians II |
| $17^{00}$ | Fields and tracks | |
| $19^{00}$ | Table tennis | |
| $19^{00}$ | Chess | |

**FRIDAY $8^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $10^{00}$ | Volleyball | Ukrainians I - Ukrainians II |
| $11^{00}$ | „ | Czechs - <u>Byelarussians</u> |
| $14^{00}$ | Baskettball | Ukrainians I - Czechs |
| $15^{00}$ | Football | „ I - Ukrainians II |
| $17^{00}$ | „ | Polish - Czechs |
| $19^{00}$ | Table Tennis | |
| $19^{00}$ | Chess | |

**SATURDAY $9^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $9^{00}$ | Volleyball | <u>Byelarussians</u> - Polish |
| $10^{00}$ | „ | Czechs - Ukrainians II |
| $11^{00}$ | Baskettball | Ukrainians I - Ukrainians II |
| $13^{30}$ | „ | Czechs - Lithuanians |
| $15^{00}$ | Football | Ukrainians I - Czechs |
| $17^{00}$ | „ | „ II - Slovakians |
| $19^{00}$ | Table tennis | |
| $19^{00}$ | Chess | |
| $21^{00}$ | Boxing | |

**SUNDAY $10^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $9^{00}$ | Lawn tennis | |
| $9^{00}$ | Volleyball | Polish - Ukrainians I |
| $10^{00}$ | „ | <u>Byelarussians</u> - Ukrainians II |
| $13^{30}$ | Baskettball | Ukrainians II - Czechs |
| $15^{00}$ | Football | Ukrainians I - Slovakians |
| $17^{00}$ | Fields and trucks (3000 mtrs) | |
| $17^{30}$ | Football | Ukrainians II - Polish |
| $20^{00}$ | Concert | |

**MONDAY $11^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $9^{00}$ | Volleyball | <u>Byelarussians</u> - Ukrainians I |
| $10^{00}$ | „ | Polish - Czechs |
| $13^{30}$ | Baskettball | Ukrainians II - Czechs |
| $15^{00}$ | Football | Czechs - Slovakians |
| $17^{00}$ | „ | Polish - Ukrainians I |
| $19^{00}$ | Table tennis | |
| $19^{00}$ | Chess | |

**TUESDAY $12^{th}$ JULY**

| | | |
|---|---|---|
| $9^{00}$ | Lawn tennis | |
| $9^{00}$ | Table tennis | |
| $9^{00}$ | Chess | |
| $14^{00}$ | Volleyball | Polish - Ukrainians II |
| $15^{00}$ | „ | Czechs - Ukrainians I |
| $16^{00}$ | Baskettball | Ukrainians I - Lithuanians |
| $17^{30}$ | Football | Polish - Slovakians |
| $19^{30}$ | Closing ceremony and distribution of prices | |
| $21^{00}$ | Dancing party | |

### З Архіўнага Куфра...

Ужо ў 1949 годзе беларусы бралі ўдзел у малых алімпійскіх гульнях пад сваім бел-чырвона-белым сьцягам.

Тут зьмяшчаецца тадышні плякат-аб'яву (у значна меншым памеры) і фота беларускае спорт-групы.



СПОРТ

## Шчэрба з Іванковым — мацнейшыя ў Еўропе!

**Учора мужчынская зборная Беларусі па гімнастыцы вярнулася з чэмпіянату Еўропы, які з 9 па 12 мая праходзіў у Капенгагене. Нашы хлопцы выступілі выдатна.**

Іван Іванкоў стаў абсалютным чэмпіёнам кантынента, даволі роўна (за выключэннем перакладзіны) выступіўшы на ўсіх снарадах. Іванкоў паўтарыў поспех двухгадовай даўнасці ў Празе. У індывідуальным заліку ў яго сярэбраны і бронзавы медалі.

Зусім крышку адстаў у мнагабор'і ад свайго земляка шасціразовы алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба. Затое Віталь з бляскам выступіў у індывідуальным заліку. На яго рахунку тры залатыя і адзін бронзавы медалі.

Дарэчы, без медалёў у нашай камандзе, гонар якой абаранялі таксама Андрэй Кан, Віталь Рудніцкі і Аляксандр Шостак, ніхто не застаўся. Пяцёрка беларускіх гімнастаў была ўзнагароджана бронзавымі медалямі ў камандным заліку. А маглі ж стаць і чэмпіёнамі. Да выступлення на перакладзіне ў камандным заліку нашы ўпэўнена ішлі наперадзе, апярэджваючы на цэлы бал асноўных сваіх канкурэнтаў — расіян і ўкраінцаў. Праўда, захаваць гэтую перавагу не ўдалося. Не зусім удала перакладзіну «адпрацавалі» Іванкоў і Кан — у выніку нашы аказаліся трэцімі, прапусціўшы наперад зборныя Расіі і Украіны.

І тым не менш, па словах трэнераў, выступленне беларускіх гімнастаў у Капенгагене заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Нашы мужчыны паказалі, што ў гімнастычным свеце, і ў Еўропе ў прыватнасці, Беларусь стаіць у першых радах, што радуе перад летнімі Алімпійскімі гульнямі ў Атланце.

Было б выдатна, калі б прыклад мужчын пераняла і наша жаночая зборная, якая зараз выступае на сваім жаночым чэмпіянаце кантынента ў Бірмінгеме. Турнір працягнецца тыдзень і закончыцца 20 мая.

# ЮРЫЙ ХАДЫКА НЕ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ ВІНАВАТЫМ

ЗВЯЗДА

*У трэцяй клінічнай бальніцы з Ю.В.Хадыкам сустрэўся наш карэспандэнт.*

**— ЮРЫЙ ВІКТАРАВІЧ, як вы ацэньваеце цяпер стан вашага здароўя?**

— Ёсць, зразумела, слабасць, голас крыху «падсеў», бяссонніца дае аб сабе знаць, моцнага сну маю толькі гадзіны тры...

**— Як вам галадалася?**

— Што тычыцца мяне, то галадоўка праходзіла нармальна, я раней цікавіўся, як трэба праводзіць галадоўку, як у яе ўваходзіць, як выходзіць, таму асаблівых праблем у мяне не было. Цяжка вось было пакінуць смаліць, але калі на дзесятыя суткі пачала моцна балець галава, я кінуў...

**— Выходзіць, кінуць есці было лягчэй, чым смаліць цыгарэты?**

— Так, атрымліваецца. Адзіная цяжкасць была, што ў турме немагчыма было рабіць ачышчэнне страўніка так рэгулярна, як патрабуецца пры галадоўцы. Пакуль я не пераканаў адміністрацыю, каб мне дазволілі перадаць гэтую «грушу» для клізмаў... А вось мае сукамернікі ставіліся да галадоўкі з паразуменнем, спачатку ўгаворвалі кінуць яе, а потым вызвалілі мяне ад дзяжурства па камеры, апякалі нават, ваду дапамагалі гатаваць.

**— Ведаеце, была інфармацыя, што апошнія дні вы быццам бы ўжо не ўставалі...**

— Мабыць, пераблыталі з Вячаславам Сіўчыкам, ён хоць і маладзейшы, але слабейшы, горш пераносіў галадоўку. Было, праўда, што нейкі час у мяне ўпаў ціск да крытычнай рысы, тады доктар параіў піць падсоленую ваду, і ціск нармалізаваўся літаральна праз дзень... Зараз з дактарамі я знаходжу агульную мову, і мяркую, што добры настрой і воля чалавека дазваляюць выходзіць і з больш цяжкіх сітуацый без значнай шкоды для здароўя. Так што я думаю, што выйду з галадоўкі нармальна.

**— У вас сапраўды два разы была грунтоўная медыцынская камісія: 16 і 19 мая?**

— Так. Камісіі адзначалі, што ў арганізме адбываюцца тыя перамены, якія звычайна бываюць падчас галадоўкі. Як я разумею, яны пераканаліся, што мы сапраўды галадаем. Першая камісія больш нічога не выявіла, а вось другая, гэты кансіліум, зрабіла агляд больш грунтоўны, знайшла некаторыя адхіленні ад нормы, але ў межах маіх узроставых паказчыкаў. Такім чынам, што датычыць мяне, то ніякай пагрозы жыццю ці здароўю не было, я там толькі патрабаваў, каб Сіўчыка адпусцілі.

**— Юрый Віктаравіч, а з чым вы звязвалі гэтую вашу галадоўку, як вы яе тлумачылі ў сваіх заявах?**

— Усім супрацоўнікам гэтых устаноў, у тым ліку медыцынскаму персаналу, я тлумачыў свой пратэст тым, што я не лічу сябе злачынцам, які парушыў якія-небудзь артыкулы Крымінальнага кодэкса, што справа гэта палітычная, што гэта ўсе добра разумеюць, таму гэта пратэст супраць бяспраўнага, незаконнага зняволення, які будзе працягвацца да таго часу, пакуль нас не выпусцяць. Таму што гэтае імкненне сённяшняй улады паставіць усіх на калені ў адносінах да БНФ не пройдзе, не станем мы на калені перад гвалтоўнай уладай, якая не паважае ні правоў чалавека, ні Канстытуцыі, ні законаў. І вы ведаеце, я знаходзіў разуменне сярод усіх гэтых людзей, і яны больш нават не адгаворвалі.

**— Аднак следчы мінскай пракуратуры зазначаў, што вы ніяк не аргументавалі сваю галадоўку...**

— У пісьмовай заяве я напісаў коратка: я пратэстую супраць незаконнага затрымання і аб'яўляю галадоўку, патрабуючы вызвалення пад падпіску аб нявыездзе. Я не збіраюся нікуды ўцякаць, нават калі мяне будуць выганяць...

**— Ці ведаеце вы, у чым вас абвінавачваюць?**

— Мне прад'явілі абвінавачанне па арт.168-3 Крымінальнага кодэкса, але ў чым маё злачынства — яны не патлумачылі. Яны не могуць мяне ні ў чым абвінаваціць, таму што я падчас шэсця толькі заклікаў падтрымліваць максімальны парадак, машын не перакульваў, ні да аднаго міліцыянера не дакранаўся... Я сябе лічу абсалютна невінаватым, нават фармулёўка «арганізацыя» тут зусім не падыходзіць, арганізаваць мітынг можа наша ўлада, але для гэтага патрэбна сто аўтобусаў, патрэбен дазвол, каб людзей адпускалі з працы і г.д. Мы ж людзей не арганізоўвалі, мы заклікалі іх на мітынг, і калі яны прыходзяць — значыць ёсць у грамадстве такая патрэба.

**— Як член Нацыянальнага аргкамітэта, вы праводзілі перамовы з гарадскімі ўладамі, скажыце, ці выканалі яны свае абяцанні?**

— Гарадскія ўлады цалкам выканалі свае абяцанні, якія яны давалі вышэйшай уладзе, а нам яны ніякіх абяцанняў не давалі. Спачатку яны забаранілі нам усё, і гэта было грубым парушэннем дзеючага заканадаўства, таму што ніякая гарадская ўлада не можа забараніць такі мітынг, шэсце, прысвечанае ўсенароднай трагедыі. У той жа дзень выйшла пастанова Кабінета Міністраў, якая абвяшчала 26 красавіка днём усенароднага смутку. Нам прапанавалі далучыцца да таго мітынгу, дзе нам бы і слова не далі. Пазней яны далі дазвол на мітынг, а на шэсце — не. Гэта відавочная правакацыя, таму што людзі збіраліся каля Акадэміі навук і неяк павінны былі дабрацца да Палаца спорту. Вось тут мы ўжо пайшлі на ўсе перамовы з міліцыяй, дагаварыліся аб двух варыянтах: калі людзей будзе нямнога, да 20 тысяч, то мы пойдзем тратуарамі, па вуліцы Чырвонай і далей закавулкамі; але калі больш, то мы пойдзем да цырка па праспекце. І міліцыя аб гэтым ведала. Спачатку мы хацелі рабіць паварот толькі каля ГУМа, бо пяцідзесяцітысячная калона — гэта цяжкакіруемая маса людзей. Толькі па просьбе Тарлецкага, які за гэтыя беспарадкі атрымаў званне генерала, мы адступілі да цырка... Калі мы пачалі рухацца, было прыкладна 20 тысяч, але колькасць людзей хутка павялічвалася, таму мы хутка яны выйшлі на праспект. Нельга ж думаць, што людзі, якія добраахвотна прыйшлі адзначыць 10-годдзе трагедыі, выказаць свой пратэст, могуць падпарадкоўвацца любому загаду. У людзей ёсць свае ўяўленні пра справядлівасць ці несправядлівасць, і толькі тады, калі загады адпавядаюць гэтым уяўленням большасці, калонай можна кіраваць. Але якія падставы былі выстаўляць міліцэйскія кардоны, калі да плошчы Якуба Коласа людзі паводзілі сябе дысцыплінавана? Гэта грубая непавага да людзей або рэалізацыя плана правакацыі, і гарадскія ўлады тут аказаліся крайнімі, казламі адпушчэння. Відаць, улада хацела справакаваць бойку, паказаць сваю сілу, і я проста ганаруся, што людзі не адступілі і дказалі, што яны маюць сваё права.

Няхай судзяць мяне, я не баюся гэтых судоў.

**— Тым не менш, як казаў адзін са следчых, у рэшце рэшт, хтосьці павінен адказаць за тыя перакуленыя машыны, за каменне, што ляцела ў салдат.**

— Няма больш простага пытання. Павінен за гэта адказваць гарвыканкам, і ў першую чаргу яго старшыня Ярмошын. Калі б не было гэтых беспадстаўных загадаў, правакацый, не было б ні перакуленых машын, ні камянёў, якія кідалі ў адказ.

**— Калі вам абяцаюць суд, дык ці будзе, па-вашаму, ён адкрыты?**

— Яшчэ першы следчы казаў, што будуць вывучаць справу 2 месяцы, не менш... А наконт адкрытасці... Ведаеце, разумная ўлада наогул ухілілася б ад суда, менш разумная зрабіла б яго адкрытым, але я думаю, што суд будзе закрытым. Мае двухгадовыя назіранні падказваюць мне, што будзе выбраны менавіта такі шлях, каб можна было асудзіць, а пасля гаварыць усё, што заўгодна.

**— Ці давалі вы ўжо якія-небудзь паказанні следству?**

— Справа ў тым, што я быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ, і мне прапанавалі даць паказанні ў якасці сведкі, што я ўспрыняў натуральна, расказаў усё як было. Потым зайшоў другі следчы, паказаў пратакол аб затрыманні, і кажа: давайце паказанні як затрыманы. Як затрыманы я ўжо не даваў паказанні, таму што як сведка я ўсё расказаў. І больш паказанняў я не даваў.

**— Як да вас адносіліся прадстаўнікі аховы?**

— Спачатку я быў трое сутак ў ізалятары часовага ўтрымання, потым два дні ў камеры папярэдняга ўтрымання ў СІЗО на Валадарскага... Вядома, першыя пяць сутак былі самыя цяжкія і непрыемныя, бо там людзей трымаюць як жывёлу, у каменных мяшках, з голымі нарамі, ежу давалі раз у суткі... А стаўленне з боку персанала на здзіўленне было паважлівым, многія выказвалі сімпатыі да БНФ, выпадаў супраць нас наогул не было. Я, як і Сіўчык, быў запрошаны да начальніка СІЗО, дзе ён нам параіў не галадаць, паскардзіўся, што турма перапоўнена ў паўтара раза як мінімум. Але мяне змясцілі ў камеру, дзе было пяць чалавек, сярэдні ўзрост якіх 55 гадоў, чацвёра сядзелі ўпершыню. Так што было відавочным імкненне стварыць нам найбольш мяккія ўмовы з боку адміністрацыі.

**— Чаму?**

— Таму, што яны разумелі, што мы не крымінальныя злачынцы, што мы палітычныя зняволеныя. Таму я не меў ніякіх прэтэнзій да персаналу. Рэжым там цяжкі, бесчалавечны, але гэта не іх віна, рэжым трэба мяняць заканадаўцам. Самае цяжкае было пераносіць ізаляцыю ад усяго, не бачылі нават зеляніны, адны шэрыя сцены... На прагулку даецца адна гадзіна, дворык два на два метры, два крокі — паварот, два крокі — паварот, галава кружыцца пачынае. Ноччу мне неяк бэз прысніўся.

**— Як часта вам давалі магчымасць сустракацца з роднымі і адвакатам?**

— Гэты бок рэжыму таксама вельмі непрыемны, сустрэчы з роднымі дазваляюцца надзвычай рэдка, тым не менш, маёй жонцы дазволілі адно спатканне са мной, з умовай, што яна пераканае выйсці з галадоўкі. Але жонка мая на гэтым не настойвала. А адвакат прыходзіла, калі мела магчымасць, газеты прыносіла...

**— Вяртаючыся да падзей 26 красавіка, я хацеў бы вам нагадаць, што, напрыклад, Генадзь Карпенка заявіў, што ён не ўспрымае ў гэтым шэсці і мітынгу ўдзел украінскіх баевікоў і хвіліну маўчання ў памяць Д.Дудаева. А як вы ставіцеся да гэтых фактаў?**

— Я не згодны з Генадзем Дзмітрыевічам. Украінскіх баевікоў, калі іх можна так назваць, ніхто не запрашаў, але, з другога боку, ніхто і не забараняў ім удзельнічаць у шэсці. Забарона такая была б непавагай да прадстаўнікоў суседняй краіны. Папярэдне мы толькі папрасілі іх паводзіць сябе максімальна дысцыплінавана, і, калі не лічыць некаторых выключных момантаў на працягу ўсяго шэсця, яны ўсётакі падпарадкоўваліся агульнай дысцыпліне. Наконт памяці Дудаева, то, па-мойму, каб яго лічыць разбойнікам, трэба быць абсалютна бессардэчным чалавекам, без усякага пачуцця спагады, здольнасці паставіць сябе на месца гэтага шматпакутнага народа, які знішчаецца ўжо 150 гадоў: 50 гадоў яго Расійская імперыя з Ярмолавым і казакамі заваёўвала, тапіла ў крыві, разбурала іхнія аулы, іх цывілізацыю, потым іх выселілі ўсіх, цяпер зноў знішчаюць толькі за тое, што яны хочуць жыць самастойна. А Дудаеў ужо стаў эпічным героем чачэнцаў. Я шчыра далучыўся да той хвіліны маўчання. Гэта было добра, гэта быў вялікі момант, калі ўсе 40—50 тысяч чалавек, што былі там, выканалі гэтую просьбу.

**— Вы казалі, што вы нікуды не з'едзеце. Але ў нашым грамадстве даволі востра абмяркоўваецца праблема вакол таго, што ў той час, як вы сядзелі ў турме, у Польшчу з'ехалі іншыя лідэры БНФ: Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык. Як вы ацэньваеце гэтую калізію?**

— Гэта не калізія. Гэты выезд на самай справе з'яўляецца інфармацыйнай паездкай, і мэта, якая стаіць перад Навумчыкам і Пазняком, — даць максімальна шырокаму колу грамадскасці суседніх краін інфармацыю аб тым становішчы, якое склалася ў Беларусі. Іх знаходжанне на Украіне паказала, што яны своечасова туды паехалі, там абвастрылася цікавасць да Беларусі, і ў іншых краінах таксама. Не выкарыстаць такую магчымасць было б недаравальна. Яны зараз будуць ездзіць па тых краінах, куды іх будуць запрашаць урадавыя ці няўрадавыя ўплывовыя колы, да таго часу, пакуль будзе гэтая хваля цікавасці да Беларусі. Калі Пазняк вярнуўся 26 красавіка, мы яшчэ раз усё гэта абмеркавалі і дамовіліся, што, калі вычарпаецца гэтая магчымасць, яны абавязкова вернуцца. Мы іх прасілі не выкарыстоўваць больш слоў аб палітычнай эміграцыі, як казаў некалькі разоў Навумчык, бо гэта не адпавядае сутнасці акцыі, бо не было яшчэ ніякіх палітычных рэпрэсій. Толькі зараз пра гэта можна пачынаць гаварыць, калі з'явіліся загады затрымаць Пазняка і Навумчыка.

**— Яны вернуцца і адразу сядуць у турму, як вы?**

— Справа ў тым, што абвінавачанні Пазняку і Навумчыку прадстаўлены за падзеі 24 сакавіка па Адміністрацыйнаму кодэксу, а там ёсць тэрмін даўнасці ў тры месяцы. Таму будзе вельмі разумна з іх боку пабыць тры месяцы за мяжой. Калі пасля гэтага іх затрымаюць, то гэта будзе чысты прыклад палітычных рэпрэсій.

**— Ці лічыце вы, што гэта справядліва, што вам з Сіўчыкам даводзіцца адседжваць у турме, а Пазняку з Навумчыкам за мяжой?**

— У турме мог бы быць Пазняк, можа ён яшчэ і будзе там. Мне давялося сядзець пакуль што тры тыдні, яму, можа, давядзецца больш. Мы гатовы да таго, каб адстойваць правы чалавека не толькі на словах. І калі будуць нас саджаць, то як палітычных зняволеных. Мы паслядоўна вядзём палітыку непадпарадкавання прававаму бязмежжу ў рамках закона, таму, відаць, мы і дабіліся гэтага вызвалення з-пад варты.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

У верасьні 1991-га году
бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня
ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі
незалежнай Беларусі.
Шануйма-ж іх!

*Мікола Статкевіч:*

# "Хто палохаецца, той гіне"

"Наша Ніва"

*Старшыня Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады Мікола Статкевіч адказаў на пытаньні карэспандэнта "Нашай Нівы" Алега Дашкевіча.*

**"НН": Пасьля 1 траўня, калі Вы ўзначалілі калёну дэманстрантаў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, ці мысьліце Вы сябе ў ролі палітычнага лідара нацыянальнага адраджэньня?**

**М.С.:** На маю думку, можна быць палітычным лідарам ці лідарам пэўных палітычных плыняў, але не нацыянальнага адраджэньня, бо адраджэньне духоўнасьці, культуры, мовы — гэта задача, якую нельга вырашаць у працэсе звычайнай палітычнай барацьбы. Яе будуць вырашаць тыя патрыятычныя палітыкі, якія прыйдуць да ўлады. Але ў працэсе змаганьня за ўладу падмацьць лёзунгі нацыянальнага адраджэньня як асноўныя — гэта заведама пройгрышны варыянт. Людзі на выбарах ва ўсім сьвеце галасуюць за матэрыяльнае, за дабрабыт. І таму трэба, каб у нас усе асноўныя палітычныя ідэалёгіі ўзначальвалі людзі патрыятычныя, нацыянальна сьведамыя.

Я, напрыклад, хацеў бы быць палітычным лідарам сацыял-дэмакратыі.

**"НН": Грамада ўваходзіць у Сацыял-Дэмакратычны Саюз, дзе ёсьць таксама і людзі з адміністрацыі прэзыдэнта. У зьвязку з гэтым Вас часам абвінавачваюць у тым, што Вы з падтрымкай рэжыму расколваеце дэмакратычны рух...**

**М.С.:** СДС — гэта неаднародны блёк розных партыяў. Вы, напэўна, перадусім маеце на ўвазе Партыю Народнай Згоды і яе кіраўніцтва. Гэтая партыя мае сацыял-дэмакратычную праграму, мае ў сваім складзе шмат людзей, якіх мы лічым патрыётамі Беларусі. Перамовы з гэтай партыяй пра ўтварэньне СДС пачаліся яшчэ да таго, як на чале яе зьявіўся спадар Сечка. Яшчэ калі ПНЗ толькі зьявілася, яе называлі "партыяй народнай здрады". А мы вырашылі разабрацца, сустрэліся з кіраўніцтвам ПНЗ і разам прынялі заяву ў абарону дзяржаўнасьці беларускай мовы. Памятаю, як нябожчык Міхась Ткачоў увесь час казаў пра аб'яднаньне з гэтай партыяй. Я думаю, што гэта занадта вялікая раскоша для Беларусі — ледзьве ня пяць партыяў, якія называюцца сацыял-дэмакратычнымі. Тым больш, пасьля таго, як мы па сутнасьці прайгралі на выбарах. У нас толькі два дэпутаты. Мы мусілі сабраць фракцыю, і мы сабралі яе. Так, там ёсьць людзі, залежныя ад адміністрацыі. Паводзіны гэтых прэзыдэнцкіх кантралёраў, як іх тут называюць, будуць мяняцца і ўжо мяняюцца.

Сёньня мы ставім пытаньне пра аб'яднаньне з ПНЗ. У канцы сакавіка ў нас была нарада кіраўнікоў рэгіянальных арганізацыяў, там толькі два чалавекі былі супраць такога аб'яднаньня. ПНЗ цяпер моцна вагаецца. То яны былі ўсе за аб'яднаньне, то чамусьці нешта памянялася і тыя людзі, якія працавалі ў службе кантролю, цяпер пачалі сумнявацца. Але я спадзяюся, што яны перадумаюць. ПНЗ — дастаткова сталая партыя, там вельмі моцная патрыятычная служба. І мы не зьбіраемся губляць для сацыял-дэмакратыі гэтых людзей.

**"НН": Што Вы, як кіраўнік, можаце сказаць пра імклівы посьпех і гэткае ж імклівае зьнікненьне Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў. Часам складваецца ўражаньне, што кожная Ваша ініцыятыва даецца і даруецца Вам занадта лёгка...**

**М.С.:** У БЗВ была вялікая хіба, якую я ня змог пераадолець. Гэта была арганізацыя аднаго ідэолага. Да таго ж, калі мы зразумелі, што нашы патрыятычныя сілы ня ў стане выйграваць выбары, мы зразумелі, што БЗВ у тым выглядзе, у якім існуе, беспэрспэктыўнае. Вялікая моцная арганізацыя, арыентаваная на гісторыка-патрыятычнае выхаваньне, можа выконваць сваю функцыю толькі пры падтрымцы ўладаў або хаця б пры нэўтральным стаўленьні. Калі ўлады пачынаюць жорсткае супрацьдзеяньне, працаваць амаль немагчыма.

Мы падзялілі БЗВ на дзьве часткі, вылучылі зь яе моладзь, якую назвалі "Драбамі", потым паступова яна перарасла ў "Белы легіён". Гэта абсалютна аўтаномная арганізацыя. Але я спадзяюся, што гэтыя людзі паважаюць мяне й прыслухоўваюцца да мяне. Моладзь нельга кантраляваць. Моладзь вельмі самастойная. Гэта вельмі добра. І аказалася, што ў маладзёжнай часткі, якая называлася "Драбамі", ёсьць лідар, і яна аўтаномна і нармальна спраўляецца ў грамадзка-патрыятычнай частцы. Мае здольнасьці як палітыка не былі задзейнічаныя і, тым больш, зьявілася прапанова ад групы сяброў БСДГ, у якой я знаходзіўся раней, чым у БЗВ, і пад дахам якой я пачаў ствараць БЗВ. Гэта была спроба ўзначаліць партыю ў крытычным стане, і мае сябры мяне блаславілі на гэта. Сёньня існуюць дзьве часткі грамадзка-патрыятычнага БЗВ. Алесь Станкевіч узначальвае адну і спраўляецца са сваімі функцыямі. Пра маладзёжную частку вы таксама чулі. БЗВ нікуды ня зьнікла, яно проста пераформавалася.

Што да маёй "беспакаранасьці"...

Другога красавіка сытуацыя была вельмі напружаная. Людзі выйшлі на вуліцу, і атрымалася стыхійная дэманстрацыя. І гэтую стыхійную дэманстрацыю мэтанакіравана павялі на ўскраіну гораду, на Камсамольскае возера, міліцыя разам зь некаторымі палітыкамі. Завялі й кінулі. Людзі стаяць у разгубленасьці каля рэстарана "Канстантин", ня ведаюць, што ім рабіць. І тут, дарэчы, хлопцы зь "Белага легіёну" дапамаглі мне. Адбылася сустрэча з дэпутатам Знаўцом, маім намесьнікам у партыі. І мы разам зволелі нармальна правесьці калёну туды, куды плянавалі — да Палацу спорту.

Але вы ня думайце, што гэта сышло мне так. Мяне папярэдзілі, што ўлады маюць на мяне вялікі зуб і спэцслужба пачала працу. Хутчэй за ўсё, на другога красавіка быў плян пусьціць усю энэргію ў пясок. Але калі б мы пусьцілі настрой гэтых маладых хлопцаў у пясок, мы б іх ужо не сабралі. Мабыць, калі іх завялі ў тупік, нехта ўжо сьвідраваў дзірку ў напленчыку пад новую зорку. А тут умяшаліся мы, і атрымалася зусім наадварот.

Я адчуваю, што сапраўды нейкая помста йдзе. Зноў жа, плёткі, дыскрэдытацыя ў прэсе і г.д. Ні для каго не сакрэт, што ў дэмакратычных сілах укаранілася шмат сакрэтных супрацоўнікаў, асабліва ў тых, якія ўзьніклі першыя. І самы эфэктыўны сродак дзеяньня... Як, напрыклад, паварыць дзьве палітычныя сілы? Вельмі проста. Прыйсьці да аднаго лідара і сказаць пра другога: ён называў цябе так і так. Гэта самае эфэктыўнае. Ня трэба палітычнага разыходжаньня. Вось гэта й робіцца.

**"НН": У зьвязку з БЗВ мне згадваецца фігура Віктара Шэймана. Памятаю, як ён маршаваў на прысязе, якую праводзілі Вы. Цяпер ён у іншай камадзе, і якія ў Вас зь ім адносіны?**

**М.С.:** Ніякіх. Я заўсёды добра ставіўся да яго. Віктар зрабіў свой выбар яшчэ ўзімку 94-га. Мае кантакты зь ім, дзякуй сябрам БЗВ, перапыніліся, калі ён пабегу ў зорку Лукашэнкі і пачаў працаваць зь ім. Я ніколі не асуджаю людзей, якія самі прымаюць рашэньне, з кім ім быць. Ніколі не асуджаў, напрыклад, тых, хто пачаў працаваць разам з Лукашэнкам, потым сыйшоў ад яго і працуе цяпер супраць яго. Гэта справа кожнага. Адно прыкра — я ўсё ж не чакаў, што адміністрацыя прэзыдэнта правядзе гэты рэфэрэндум. Гэты рэфэрэндум — ганьба для нас.

**"НН": Часам складваецца ўражаньне, што Вы маглі б рабіць значна больш, чым робіце. Але пасьля пасьпяховага правядзеньня акцыі Вы зьнікаеце...**

**М.С.:** Сьцяг нацыянальнага адраджэньня сёньня нясе іншая сіла. Гэта ня чыста палітычная, а адраджэнская, культурніцкая сіла. Гэта БНФ. Калі я ўзначальваў БЗВ, памятаю сваю размову са спадаром Хадыкам напярэдадні 92-га году, калі мы сьвяткавалі перамогу пад Воршай. Я сказаў, маўляў, давайце мы гэтым будзем займацца. Вы ж палітыкі, Вам на выбары йсьці. А замест гэтага пачалася нават нейкая канкурэнцыя за 8 верасня. І ў 94-м мы асобна ладзілі гэтую акцыю. Потым мы зразумелі, што гэта — дурная канкурэнцыя.

Фронт вызначыўся. Гэта яго права. Ён так хоча. І ён гэта робіць добра. І сёньня новую хвалю таксама ўзначаліў БНФ. Што блытацца пад нагамі? Фронт здольны арганізаваць масавую акцыю лепш, чым хто-небудзь. А я прыходжу на гэтыя акцыі шараговым грамадзянінам. Іншая рэч (калегі з БНФ не пакрыўдзяцца), калі праводзіца масавая акцыя, вельмі важна захаваць жорсткае кіраваньне, каб калёна не ператварылася ў натоўп. Акцыя 2 красавіка, як я зразумеў, загадзя не плянавалася і атрымалася спантанна, людзі былі заведзеныя не туды. Тады я ўмяшаўся.



26 красавіка як таксама ўмешваўся, як шараговы грамадзянін. Думаю, такога жорсткага пляну спыняць і біць на плошчы Я.Коласа ва ўладаў не было. Проста — не пушчаць недазволеным маршрутам. Псыхалёгія міліцыянтаў і вайскоўцаў асаблівая. Я служыў у супрацьпаветранай абароне. Дык там ніколі яшчэ не пакаралі ніводнага камандзіра, што зьбіў самалёт, які ня трэба было зьбіваць. Вось зьбіў, напрыклад, выпадкова пасажырскі самалёт. Гэтага чалавека пераводзяць у іншае месца, прыхоўваюць, а потым ён расьце ўверх далей. Але, крый Божа, калі ты ня зьбіў таго, каго трэба было зьбіць. Гэта нерашучасьць і цябе яшчэ пасадзяць. Тое самае, мабыць, і ў нас цяпер зь міліцыяй. Вось што спрацавала.

**"НН": Ці БСДГ сёньня асьцерагаецца больш радыкальных крокаў з-за таго, што пакуль ня мае дастатковае моцы?**

**М.С.:** Не. Не таму. Дэманстрацыі патрэбныя цяпер, калі парлямэнт перастаў быць сабою. Бо парлямэнт, які займаецца "адабрямцам", ужо не парлямэнт. І палітыка там зьнікла, яна цяпер на вуліцы. Але дэманстрацыя скончыцца і пачнуцца выбары. Мы будзем хадзіць са сьцягамі, і будзе высокі настрой нас апаноўваць, а потым прыйдзем на выбары і атрымаем па мордзе... Мы, як парлямэнцкая партыя, ставім сабе задачу — перамагаць на выбарах. Бываюць і экстрэмальныя сытуацыі. Але ўсё адно, паверце, усё будзе вырашацца на выбарах.

Калі я быў малы, у нас у вёсцы была маленькая суполка франтавікоў, сапраўдных, якія ваявалі ў разьведцы, па-страшнаму ваявалі. Адзін, памятаю, меў два ордэны Славы. Яны ўсе сьпіваліся — гэта, мабыць, страшная памяць пра вайну — шмат крыві на руках, чалавечая псыхіка не вытрымвае. Мы, пацаны, там бегалі побач. Пляшкі пустыя зьбіралі. У іх было ўлюбёнае выслоўе: хто палохаецца, той гіне. Гэта досьвед, дабыты крывёю. Нельга палохацца. Улады пабілі й парыштоўвалі 26-га. Дэманстрацыя 1-га, у адрозьненьне ад дэманстрацыі 26-га, — дазволеная ад пачатку да канца. Калі напалохацца й не пайсьці, то гэта будзе выразны сыгнал. Значыць, можна біць, калі нават дазволенага баяцца.

**"НН": У чым Вы бачыце галоўныя памылкі БНФ?**

**М.С.:** Я думаю, што гэта не памылкі, а самаахвяраваньне. БНФ адначасова займаўся дзьвюма задачамі, якія мала пасуюць адна да адной. Заваёва палітычнай улады (голая палітыка) і нацыянальнае адраджэньне. Людзі могуць паважаць тых, хто за нацыянальнае адраджэньне, за мову і г.д., але ў шкале іх прыярытэтаў на першым месцы сацыяльнае — заробак, есьці трэба, дзяцей карміць, гадаваць, апранаць. У БНФ першая функцыя — адраджэнская, яна навідавоку, кідаецца ў вочы. Сымбалямі Фронту зрабіліся мова, гісторыя і яшчэ антырасейскі настрой. І невыпадкова, калі Лукашэнка захацеў нанесьці ўдар па БНФ, ён ударыў па трох прыкметах Фронту. Тры першыя пытаньні на выбарах: мова, сымболіка, адносіны з Расеяй. Мо' Лукашэнку было ўсё адно — і гэтая сымболіка, і гэтая мова, але ён наносіў удар па БНФ, па нашых сымбалях і мове. Усё ж варта было, калі сымболіку ўжо прынялі, не падстаўляць яе. Але, зноў жа, з боку лёгка выказвацца. Я думаю, што роля БНФ у нашай гісторыі ўжо застанецца зь ім назаўжды. Гэта ў нечым духоўны подзьвіг. Аднак, на жаль, практычная, прагматычная палітыка патрабуе людзей іншага кшталту. Мы цяпер спрабуем выхаваць, выгадаваць такіх людзей.

**"НН": Як, на Вашу думку, зьмянілася сытуацыя ў краіне пасьля красавіка?**

**М.С.:** Сытуацыя зьмянілася абсалютна. Усе зразумелі, што працэс станаўленьня беларускай нацыі незваротны. Вырасла новае пакаленьне. Гэта не прыхільнікі БНФ, не прыхільнікі Грамады, проста людзі, якія хочуць жыць у нармальнай эўрапейскай незалежнай краіне, у якой не было б сорамна за тое, што і як гаворыць твой прэзыдэнт. Пакаленьне выгадавалася, быў глыток свабоды.

Маладыя заўсёды лепшыя, больш радыкальныя, не такія сапсаваныя жыцьцём, як старэйшыя людзі, яны не жылі ў пэрыяд двудумства, ім, як нам, не даводзілася думаць адно, гаварыць другое, а рабіць трэцяе. Яны абсалютна шчырыя ў сваіх станоўчых якасьцях і ў сваіх недахопах. Гэта ўжо першае пакаленьне новай нацыі. Яно — як авангард, перадавы легіён новай нацыі. І ад таго, ці здолее ён стрымаць наступ шэрасьці, ня дасьць загнаць сябе ў "саўковасьць", залежыць, ці здолее нацыя пайсьці, разьвівацца далей. Ад моладзі залежыць, ці зробімся мы эўрапейцамі, белай нацыяй. Я менавіта так расшыфроўваю для сябе назву "Белы легіён". Гэта перадавы атрад, які прымае ўдар на сябе, каб даць разгарнуцца й выйграць час новай нацыі.

**"НН": Як Вы ставіцеся да Лукашэнкі?**

**М.С.:** Я не падзяляю тых ацэнак, быццам ён нейкі там засланы, нейкая місія ў яго гістарычная, д'ябальская і г.д. Гэты чалавек, на мой погляд, дамагаецца толькі ўлады. Пры іншых абставінах ён быў бы нацыяналістам. На сваіх першых выбарах Лукашэнка йшоў пры падтрымцы БНФ. Ён першы ўнёс бел-чырвона-белы сьцяг у будынак Вярхоўнага Савету. Ён змагаўся за тое, каб Шушкевіч стаў сьпікерам парлямэнту. Гэты чалавек працуе на сябе.

Цяпер проста палітычная кан'юнктура такая, што найбольш актыўныя выбаршчыкі маюць пэўныя ілюзіі. Ён эксплюатуе гэтыя ілюзіі, каб выйграваць рэфэрэндумы, выйграць яшчэ выбары. Праўда, у такой пазыцыі ёсьць вялікая хіба. Яна не дазваляе рухацца наперад. Ён яшчэ больш распальвае ілюзіі, і робіцца закладнікам гэтых ілюзіяў, гэтай ідэалёгіі. У выніку краіна ходзіць па колу. Руху наперад няма. Гэта найперш б'е па эканоміцы. А потым ізноў прыйдуць выбары. Ідэалы ідэаламі, ілюзіі ілюзіямі... шкада СССР... і ты такі добры дзядзька з вусамі... але ж няма чаго есьці...

Я асабіста добра яго ня ведаю як чалавека. Гэта безумоўна псыхалягічна вельмі моцная асоба. Але, мне здаецца, гэты чалавек, па-першае, вельмі закамплексаваны, вельмі баіцца, вельмі злапомны і, па-другое, у яго няма ніякіх духоўных ідэалаў, маральных арыентыраў. Для яго дапушчальна ўсё тое, што ён лічыць мэтазгодным. Ён можа сёньня казаць нешта адно, а заўтра другое, і кожны раз абсалютна шчыра настройвае сябе і верыць у тое, што кажа, а гэта ўплывае на людзей. Але ўсё ж раней ці пазьней запас гэтых казак скончыцца і давядзецца адказваць, што ты зрабіў. Ён яшчэ малады і засьлее такі час, калі будзе чалавекам зь вельмі адмоўнай вядомасьцю ў нас у краіне. Ён сапраўды многа зрабіў ад адваротнага — ён спрыяў узгадаваньню нацыі. Моладзь не ўспрымае Лукашэнку: як ён гаворыць, што ён гаворыць, што ён робіць. Пратэстуючы супраць яго, моладзь ходзіць на дэманстрацыі, апынаецца пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, слухае прамовы лідараў, якія гавораць па-беларуску. З другога боку яна бачыць людзей са шчытамі, дубінкамі і ў касках. Так у сьвядомасьць маладых закладаецца: што сваё і хто свае, а што чужое і хто чужыя.

**"НН": А Вы за сябе не баіцёся?**

**М.С.:** Мне вельмі падабаецца БЗВ. Тое БЗВ, ранейшае. Для мяне асабіста галоўным этапам было выйсьці з падпольля, заявіць адкрыта аб выхадзе з КПСС. Гэта было зьвязана зь віленскімі падзеямі 91-га году. Тады адразу пайшла раскрутка, было страшнавата, але гэта было страшнавата ў апошні раз, бо, калі ёсьць нейкая адказнасьць за іншых людзей, гэтая адказнасьць засланяе ўсё астатняе, месца асабістаму страху не застаецца. Акрамя таго, як казалі тыя старыя франтавікі...



# СУМНЫЯ ЎГОДКІ

**Надыходзяць сумныя ўгодкі: 50 гадоў таму бальшавікі прысудзілі да сьмерці на шыбеніцы выдатных беларускіх патрыётаў, змагароў за волю народу. Сярод іх - генерал Кастусь Езавітаў, маёр Іван Гелда, маёр Усевалад Родзька, віцэ-прэзідэнт Беларускае Цэнтральнае Рады Мікалай Шкялёнак, прафесар Платон Жарскі... Прыгаворы былі тэрмінова выкананы катамі з МГБ.**

**Пра кожнага з названых можна і трэба пісаць кнігі. Але на сёньняшні дзень толькі пра генерала Езавітава напісана шмат, а пра астатніх -амаль нічога... Сёньня я спынюся на асобе Усевалада Родзькі. Чытачам "ПАГОНІ" ужо вядома ягонае імя, а таксама дзейнасьць падчас апошняй вайны. Таму закрану толькі малаасьветленыя старонкі яго біяграфіі.**

«ПАГОНЯ»

Ён узышоў на эшафот на 82 гады пазьней за Кастуся Каліноўскага. Як і легендарны Кастусь, Усевалад загінуў яшчэ маладым, у 26 гадоў. Як і Каліноўскі, ён загінуў ад крывавых рук расейскіх акупантаў, толькі з чырвонай афарбоўкай. Як і Кастусь, ён ачольваў беларускі вызвольны рух ды змагаўся за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

Нягледзячы на сваю маладосьць, Ус.Родзька шмат пасьпеў зрабіць: арганізаваў падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю (БНП), дэсантны батальён "Дальвіц", партызанку Беларускай вайсковай арганізацыі... Ворагі не маглі паверыць, што ўсё гэта зрабіў малады хлопец, які перад вайною толькі скончыў гімназію. Акупанты забілі яго, пакінуўшы магілу бязыменнай, а імя Беларускага героя запляміўшы бальшавіцкай маною...

Усевалад Філарэтавіч Родзька нарадзіўся ў 1920 г. у вёсцы Чучэвічы Лунінецкага павету Пінскай вобласьці. У 1938 годзе ён скончыў польскую дзяржаўную гімназію імя А.Міцкевіча ў Наваградку. Падчас вучобы вылучаўся сваімі здольнасьцямі да навукі і спорту, быў каманьдзірам дружыны скаўтаў. Як і іншых матурыстаў гімназіі, Родзьку накіравалі ў польскую школу падхарунжых. Пасьля была вайна...

З нямецкага палону Усевалад Родзька вызваліўся толькі ў жніўні 1940 г. Ён далучаецца да групы Гадлеўскага-Шчорса, пачынае ўдзельнічаць у дывэрсійна-разьведвальных аперацыях абвэра ў БССР. У жніўні 1941 году Родзька быў адным з кіраўнікоў Беларускай Самааховы, якая праводзіла, сумесна з Палескаю Сеччу Украінскай Паўстанчай Арміі, антыбальшавіцкую аперацыю на Палесьсі (аддзелы Самааховы паўсталі стыхійна на пачатку нямецка-савецкай вайны, а пасьля часткова ўвайшлі ў Беларускую Народную Партызанку).

У жніўні 1941-га - сьнежні 1943 году Ус.Родзька працаваў бурмістрам Віцебску. Ён праводзіць актыўную падпольную працу: арганізоўвае падпольле БНП у Менску, трымае сувязь з украінскімі нацыяналістамі, арганізоўвае выданьне падпольнага "Бюлетэня БНП" і антынямецкіх улётак, Родзька імкнецца ўзьняць нацыянальную партызанку, трымае сувязь з усімі беларускімі групамі, якія існавалі ў той час.

На зьездзе БНП у ліпені 1942 г. ён становіцца кіраўніком партыі (ксёндз В.Гадлеўскі пачаў арганізацыю Беларускага Народнага (Цэнтральнага) Фронту, які павінен быў стаць галоўнаю сілаю нацыянальнага рэзыстансу, а БНП адводзілася роля авангарду вызвольнага руху). Пасьля гібелі ў катоўнях гэстапа Гадлеўскага, Ус.Родзька становіцца кіраўніком беларускага вызвольнага руху.

На пачатку 1944 г. ён уваходзіць у Беларускую Цэнтральную Раду, каб мець больш магчымасьцяў для падпольнай дзейнасьці. Родзька актыўна працуе сярод моладзі, чытае лекцыі ў школах СБМ. Калі ў сакавіку 1944-га арганізавалася Беларуская Краёвая Абарона, Усевалад Родзька ў ранзе старэйшага лейтэнанта ачольвае 15-ты батальён БКА. Па сьведчаньні В.Віра, ён "ненавідзеў нямецкі мундзір і ніколі яго не насіў, апранаючыся ў муньдзір француская афіцэра з нашым Ярылавым Крыжом, які гостра розьніўся нават колерам ад нямецкага". Родзька быў фактычным кіраўніком БКА праз вайсковы актыў БНП. Палкоўнік Ф.Кушаль камандуючым Абароны быў толькі намінальна. Калі напрыканцы чэрвеня 1944 году ў Менску рыхтавалася антынямецкае паўстаньне, менавіта Родзька загадаў афіцэрам БКА - сябрам партыі - быць гатовымі вывесьці свае аддзелы на выступленьне.

Ус.Родзька спрычыніўся і да ратаваньня сыну Антона Луцкевіча, якім пагражаў арышт праз нямецкае гестапа. Маючы падтрымку абвэра, ён абараніў іх і запісаў афіцэрамі ў БКА.

Летам 1944-га Родзька арганізуе дэсантны батальён "Дальвіц" і перакідвае групы сяброў партыі на Беларусь, дзе ўжо пашыралася антысавецкая партызанка. Вясною 1945 году ён рэарганізуе БНП у Беларускую Вайсковую Арганізацыю, якая павінна была ўзначаліць збройнае змаганьне з расейскімі акупантамі на Бацькаўшчыне.

Каля месяца Родзька знаходзіўся на нелегальным становішчы ў Беластоку, арганізоўваючы партызанку і падпольле, перакідваючы на Беларусь сяброў БНП-БВА з Нямеччыны і Чэхіі. Арышт адбыўся раптоўна -здрадніца выдала яго ў рукі МГБ... Адбылося гэта 26 чэрвеня 1945 г. Тэрмінова Родзьку прывезьлі ў Менск, дзе Цанава патрабаваў ад яго раскрыць падпольныя структуры партыі, партызанскія базы...

У менскай турме Ус.Родзька напісаў успаміны пра сваю дзейнасьць, якія да гэтага часу не надрукаваныя (кажуць, што за гэтыя ўспаміны Цанава паабяцаў захаваць яму жыцьцё). Урыўкі з іх друкавалі ў студзені 1994 г. у "Белорусской Ниве" Ігар Акшэўскі і Генадзь Сенюкоў. Запомнім гэтыя прозьвішчы. Гэта яны напісалі, што паказаньні Родзькі ў менскай турме - гэта "откровения фашистского холуя, выродка..." Нават пасьля сьмерці гэтага вялікага патрыёта, нашчадкі яго забойцаў ліюць гразь на яго сьветлае імя. Але прыйдзе час, і мы назавем імёны і сьледчых, і членаў трыбуналу, і непасрэдных выканаўцаў прысуду. А на магіле Усевалада Родзькі, правадыра беларускіх нацыяналістаў, мы паставім помнік. Пра яго мы напішам кнігі, яго імем назавём вуліцы.

Рада БНР пасьмяротна надала Ус.Родзьку рангу генерала, адзначаючы яго выключныя заслугі перад Беларускім Народам.

Вечная яму памяць!

**Сяргей ДУДАЛІЧ.**



ВЫ



прыслалі ахвяру на нашу газэту?

# БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

АДКРЫТЫ ЛІСТ СЯБРАМ ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА АБАРОНЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ СІМВОЛІКІ

У друку змешчана заява вашага камітэта. Цалкам падзяляю вашу трывогу за нашу Бацькаўшчыну, за незалежную Беларусь. Каб не трацілі дарэмна вашу ўвагу на адкрыццё свайго светапогляду скажу адразу — кожнае слова, кожны радок гэтай заявы адгукаецца ў маёй душы, выклікае патрэбу працаваць над тым, каб гэтыя ідэі ад іх добрага пажадання перавесці ў практычную плоскасць. Для гэтага я буду выкарыстоўваць трыбуну Вярхоўнай Рады (Парламента Рэспублікі Беларусь). Каб ідэі Грамадскага камітэта прынеслі добры плён, прапаную вакол вашага камітэта стварыць шырокае аб'яднанне "Наш дом — Беларусь", якое будзе змагацца за незалежную суверэнную Рэспубліку Беларусь, за галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Я заўжды стаўлю нацыянальна-духоўныя каштоўнасці на першае месца ў сваёй свядомасці і ў свядомасці сваіх паплечнікаў. Я ведаю, што ў Вярхоўнай Радзе Рэспублікі Беларусь будзе многа дэпутатаў, якія знойдуць у сабе смеласць і разумны сэнс падтрымаць вашыя варункі ў гэтым напрамку. Гвалтоўная, незаконная змена сімволікі — недарэчнасць, якую не разумее цэлы свет. Але гэта не ўсё. Для мяне наша гісторыя і сімволіка — гэта абарона правоў чалавека, дэмакратыі, незалежнасці, сацыяльная абарона кожнага жыхара нашай Бацькаўшчыны. Гэта палітыка не жабракоў і нейкіх бездапаможных ахвяр, а палітыка гаспадароў сваёй сутнасці, свайго гасціннага дома, дзе змогуць жыць усе, хто паважае сваё жыллё і клапоціцца за ягоны дабрабыт. Вось таму я Ваш, таму я з Вамі. Прыйшоўшы ў Вярхоўную Раду Рэспублікі Беларусь, я ніколі не дзяліў дэпутатаў на "ворагаў" і паплечнікаў, як гэта робяць некаторыя вышэйшыя кіраўнікі нашай дзяржавы. З'яўляючыся сябрам парламенцкай фракцыі "Згода", якая ўзнікла на базе групы дэпутатаў з "Кансалідацыі", я буду і далей працаваць у напрамку незалежнай суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет 19 верасня 1991 года прыняў закон аб дзяржаўных сімвалах Беларусі. Я буду рабіць усё магчымае, каб гэты закон быў укаранёны ў практыку нашага палітычнага і грамадскага жыцця. Што супраць гэтага — гэта сёння незаконна. Наша гістарычная сімволіка — гэта дух народа Беларусі, увасабленне народных гістарычных, эстэтычных і маральных каштоўнасцяў. Нашы сімвалы — гэта нашы гісторыка-палітычныя святыні. Ганьба тым, хто гэта не разумее. Але шчыра шкада нашых кіраўнікоў, якім мала пра гэта казалі, мала тлумачылі нашы гістарычныя стасункі. Гістарычная будучыня нашага народа будзе залежаць ад нашых сумесных намаганняў адстаяць нашы святыні, нашу незалежнасць, суверэнітэт.

У апошні час павялічылася колькасць акцый як з боку апазіцыйных кругоў, так і кіруючых улад, якія вядуць да расколу грамадства на даволі варожыя лагеры, супрацьстаянне гэтых двух бакоў узмацняецца. Першы крок у гэтым, на жаль, паклаў рэферэндум і змена нашых гістарычных сімвалаў. Трэба працаваць разам, каб гэты раздзел быў ліквідаваны. Але гэта не значыць, што мы беларусы, гэта "статак баранаў" якім усё роўна кім быць. Наша нацыянальная "памяркоўнасць", "талерантнасць", гэта вопыт народа, дабыты на шляху тысячагадовай гісторыі барацьбы за незалежнасць, выжыванне, прага да таго, каб народам звацца і быць ім.

Досыць. Мая трыбуна ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь — гэта трыбуна "Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі", шырокага аб'яднання "Наш дом — Беларусь".

**Віктар ЦЯРЭШЧАНКА,**
**дэпутат ВС Рэспублікі Беларусь,**
**старшыня Беларускага таварыства "Народная дыпламатыя"**

# Пашырэнне НАТО — пытанне вырашанае?

***Меркаванні і прагнозы наконт таго, што прынясе магчымае пашырэнне НАТО на ўсход і якія ўзаемаадносіны павінны скласціся паміж Паўночнаатлантычным альянсам і нашай краінай, сталі сёння адной з галоўных тэм беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. У працяг дыскусіі наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў Іванам Макаловічам, які, дарэчы, днямі браў удзел у Міжнароднай берлінскай канферэнцыі «Пашырэнне НАТО на ўсход — перспектывы і рызыка».***

**— НАТО сёння — што яно сабой уяўляе?**

— Трэба разумець, што зараз Паўночнаатлантычны альянс — гэта перш-наперш палітычны і эканамічны, і толькі потым ваенны саюз. Альбо, кажучы інакш, НАТО — гэта проста сучасная Заходняя Еўропа.

**— Наколькі маюць пад сабой падставы размовы аб хуткім уступленні ў альянс краін Усходняй Еўропы і, у прыватнасці, нашых бліжэйшых суседзяў?**

— Можна лічыць, што гэта пытанне вырашана — НАТО будзе пашырацца. Па сутнасці, арміі Чэхіі, Венгрыі і Польшчы ўжо інтэграваныя ў структуры Паўночнаатлантычнага саюза. Таму ў адносінах да гэтых краін засталася чыстая фармальнасць — падпісанне адпаведных дакументаў. Хутчэй за ўсё, яно адбудзецца ў наступным годзе.

**— Аднак беларускае МЗС выказала думку, што пашырэнне НАТО на ўсход непазбежна прывядзе да новага міжблокавага процістаяння. Наколькі гэта рэальна?**

— Фарміраванне блока, альтэрнатыўнага НАТО, ужо ідзе. Узгадаем хаця б Дамову аб калектыўнай бяспецы краін СНД. Іншая справа, ці здолее Расія стварыць вартую процівагу з чыста эканамічных меркаванняў? Пытанне, ды, як кажуць, яшчэ якое.

**— У такім разе, на вашу думку, дзе шлях Беларусі?**

— Праблема сапраўды вельмі сур'ёзная. Зараз Беларусь цалкам падтрымлівае пазіцыю Расіі. З іншага боку, НАТО сёння пакуль адзіны гарант стабільнасці ў Еўропе, і ў альянс імкнуцца ўсе еўрапейскія краіны. Відаць, ісці іншым шляхам проста не мае сэнсу. Прычым як Беларусі, так і Расіі.

**Сяргей ГРЫБ.**




Малюнак М. СЕЎЛЮК

**BELARUSIAN BALLET**
**BEST IN THE WORLD '95/96 AWARD**

Authoritative jury of the International Association of Choreographers in Paris, France composed of famous international ballet-masters voted Valentin Yelizariev's ballet "Passions according to Ragneda" as the best performance of 1995/1996 in the world. The award of the best choreographer in the world was received by the Chief Choreographer and Director of the Belarusian Ballet Valentin Yelizariev in the Grand Palais of UNESCO in Paris.

IN MEMORIAM



Сьвятой Памяці
*АЛЕКСАНДАР МЛАДЗЯНОЎСКІ*
*і*
*НАДЗЕЯ МЛАДЗЯНОЎСКА*

18-га чэрвеня 1996 г. адыйшоў у вечнасьць на 87-м годзе жыцьця Александар Младзяноўскі і 29-га чэрвеня 1996 г. на 83-м годзе жыцьця жонка Надзея Младзяноўска.

Сьв. Пам. Александр і Надзея жылі на Беласточчыне, і пакінулі ў смутку дачку Веру Прускую ў ЗША з мужам Міколам і ўнучкамі Аннай і Соняй. На Беласточчыне засталіся: дачка Люба і сын Мікола з жонкай Арай, унукі: Варвара, Марта, Павал, Марак і чатыры праўнукі. Таксама на Беласточчыне засталіся сёстры Ольга і Варвара з сем'ямі і многа сваякоў і прыяцеляў. Сьв. Пам. Младзяноўскія былі вельмі скромнымі, гасьціннымі і добрымі бацькамі.

Пахавальныя абрады выканаў а. М. Кілбашэўскі. Нябожчыкі спачылі на месных праваслаўных могілках у гарадку Кляшчэлі, што на Беласточчыне. Пасьля Паніхіды а. М. Кілбашэўскі сказаў прыгожую казань, бо ведаў Сьв. Пам. Младзяноўскіх больш за 30 гадоў. Пасьля паховінаў сям'я нябожчыкаў запрашала ўсіх прысутных на памінальны абед.

Сьв. Пам. Александар і Надзея адыйшлі ў вечны супакой у прысутнасьці дачкі Любы і ўнучкі Марты ў сваім доме амаль разам, бо толькі 11 дзён дзяліла іхнюю сьмерць. Пражылі з сабой 62 гады. Жылі, гаравалі і дараБляліся ў вельмі бурлівы і цяжкі час. Змаганьне за веру і дабрабыт сям'і было моцным і цяжкім. Калі жыцьцё, здавалася, наладзілася, прышлі хваробы і старасьць а затым трэба было нечакана пакідаць белы сьвет і ўсіх каго кахалі і кім ганарыліся ды адыйсці ў вечнасьць. А кахалі моца сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Вера і Мікола Прускія з дочкамі Аннай і Соняй вельмі часта адведвалі бацькоў... Яны заўсёды чакалі нашага прыезду, хоць разумелі, што дарога далёкая і нялёгкая...

Дарагія бацькі, дзед і бабуля, сьпеце спакойным сном у сваёй беларускай з дзядоў і прадзедаў зямлі. Памяць пра Вас будзе вечна жыць у сэрцах тых, хто Вас ведаў і кахаў за жыцьця.

Вечная Памяць!!!

PS. Я з Міколам перасылаем глыбокія спачуваньні сястры Любе і брату Міколу з сем'ямі ды ўсім родным і блізкім нам людзям добрае волі. Дзякуем усім хто прысутнічаў на паховінах, а асабліва а. М. Кілбашэўскаму. Хай Бог мае ўсіх у сваёй апецы.

Вера Пруская.

*Галіна НАВУМЧЫК:*

# "Што за злачынца мой муж, каб яго не пускаць на радзіму?

"Народная Воля"

***Апошнім часам ад прэс-сакратара Беларускага народнага фронту Сяргея Навумчыка інфармацыя прыходзіць з-за мяжы. Яшчэ 26 сакавіка ён вымушана і нелегальна пакінуў Беларусь. Што стала прычынай такога кроку? Як складваецца яго лёс на выгнанні? Калі ён вернецца на Радзіму?***

***Наш карэспандэнт гутарыць з жонкай Сяргея Навумчыка Галінай Навумчык.***

— Усё пачалося ўжо ў першую ноч пасля мітынгу 24 сакавіка. Нам патэлефанаваў дасведчаны чалавек і параіў тэрмінова з'ехаць з дому. Наступнай раніцай у штаб-кватэры БНФ адбылася прэс-канферэнцыя, дзе Пазьняк і Навумчык заявілі аб пачатку палітычнага пераследу бо за лідэрамі БНФ ўжо была ўстаноўлена сачка. Вечарам таго ж дня Беларускае тэлебачанне паведаміла аб узбуджэнні крымінальнай справы па падзеях 24 сакавіка. Тым часам у нас дома ўжо ляжала позва, дзе загадвалася Сяргею Навумчыку з'явіцца ў Цэнтральны РАУС. Яшчэ на прыступках тэлецэнтра адзін міліцэйскі чын адкрыта заявіў Сяргею: "Ты нам патрэбен толькі на дзве гадзіны. Потым табе будзе ўжо не да палітыкі". Асэнсавана ісці на калецтва нам здавалася немэтазгодным. Да гэтага быў вопыт збіцця дэпутатаў у зале парламента, за якое ніхто не быў пакараны, ды і вінаватых знайсці не ўдалося.

**— Тады ў Сяргея і з'явілася ідэя пакінуць Беларусь?**

— Ідэя была мая, і я згубіла два дні, каб яго пераканаць у гэтым. Нарэшце 27 сакавіка мы аказаліся ў Кіеве, куды праз тры дні прыехаў і Зянон Пазьняк, які таксама ў Мінску амаль тыдзень вымушаны быў хавацца ад пераследу.

**— І што, вам так проста ўдалося з'ехаць?**

— Гэта была амаль дэтэктыўная гісторыя. Калі я прыехала дадому сабраць рэчы, то каля пад'езду ўжо дзяжурыла машына. Каб не падаваць віду, што я надоўга сыходжу, сумку прыйшлося выкідваць з балкона на другі бок дома. Выязджалі вечарам на машыне праз "празрыстую" беларуска-расійскую мяжу. Напэўна, удалося таму, што зрабілася ўсё неспадзявана для "пільнага вока".

**— Вядома, што з Кіева пачалася так званая інфармацыйная паездка Пазьняка і Навумчыка ў Еўропу. Ты была разам з імі, можа, нешта цікавае раскажаш?**

— За тыдзень у Кіеве Пазьняк і Навумчык мелі столькі выступаў у друку, на радыё і тэлебачанні, колькі не мелі за апошнія два гады на Беларусі. Аднак мы даведаліся, што беларускія ўлады звярнуліся да ўкраінскіх з патрабаваннямі выдаць апальных лідэраў БНФ, і нам прыйшлося ехаць далей. Спачатку ў Чэхію, а пасля ў Польшчу. Усюды былі сустрэчы на самым высокім узроўні, прэс-канферэнцыі, тэле- і радыёэфір.

**— І Пазьняк, і Навумчык адчувалі, што на радзіме ім пагражае небяспека, але ўсё ж такі 26 красавіка Пазьняк вярнуўся ў Мінск. Нягледзячы на пераслед, ён пайшоў на рызыку. Чаму з ім не было Сяргея?**

— Вяртаючыся ў Мінск, Пазьняк рызыкаваў сваёй свабодай, і гэта ніхто зараз не будзе абвяргаць. Цудам яму ўдалося пазбегнуць арышту. Сяргей, як і Пазьняк, рваўся на Беларусь, бо сапраўды, у такі сумны чарнобыльскі дзень цяжка знаходзіцца па-за яе межамі. Аднак Навумчык мусіў застацца ў Варшаве, каб у выпадку чарговых рэпрэсій беларускіх улад інфармаваць сусветную супольнасьць: Сяргей не толькі прэс-сакратар БНФ, ён яшчэ з'ўляецца сябрам Беларускага Хельсінкскага камітэта ў абарону правоў чалавека. Ёсць пэўная заслуга Навумчыка ў тым, што вызвалілі Хадыку і Сіўчыка, бо менавіта ён звяртаўся не толькі ў міжнародныя арганізацыі, але і асабіста да ўплывовых палітыкаў.

**— Пасля падзей 26 красавіка, калі разгортвалася новая хваля рэпрэсій, ты была ў Мінску. Ці закранула яна цябе?**

— Так, у Мінск я прыехала з Варшавы разам з Пазьняком у дзень Чарнобыльскага шляху і адразу адчула за сабою "пільнае вока". Нават таксіст, які нас вёз з вакзала, быў выкліканы на допыт. Ужо з вечара каля нашага дома і офіса стаялі машыны. Пазней прыйшлося зведаць і шантаж, і запужванне, і нават пагрозы ў дачыненні да маёй малодшай сястры і маці. Усё адбывалася настолькі адкрыта і нахабна, што людзей з аўтаматамі бачылі нават суседзі. Магчыма, тыя, хто гэтым займаўся, хацелі праз мяне ўплываць на паводзіны майго мужа.

**— Я ведаю, што нядаўна ты ездзіла да Сяргея ў Варшаву. Чым ён там займаецца зараз, ці збіраецца вярнуцца на радзіму?**

— У Варшаве Сяргей, як і раней, займаецца праваабарончай дзейнасцю, рыхтуе інфармацыйныя бюлетэні. Зразумела, ён хоча вярнуцца на Беларусь, але калі гэта будзе магчыма — невядома, бо ёсць крымінальная справа па факту падзей 24 сакавіка і 26 красавіка. Мне сказалі, што быццам супраць Пазьняка і супраць Навумчыка асабіста ўзбуджаны яшчэ нейкія крымінальныя справы. Відавочна, што яны носяць яўнае палітычнае адценне. Больш таго, Пазьняк і Навумчык не могуць патрапіць на Беларусь, бо ёсць загад арыштаваць іх пры ўездзе, на мяжы. Мяне здзіўляе, што загад такога кшталту, хоць і быў абнародаваны ў прэсе, не выклікаў ніякай рэакцыі ў беларускіх дэмакратычных парламентарыяў. Што за злачынцы Пазьняк і Навумчык, каб іх не пускаць на радзіму?

**Гутарыла Марыя НАРЭЙКА.**

## ПАШПАРТ З «ПАГОНЯЙ» МОЖНА АТРЫМАЦЬ

**Хачу памяняць савецкі пашпарт на новы, з «Пагоняй». Але чуў, што існуе тайнае распараджэнне такі дакумент не выдаваць. Ці так гэта?**

**Анатоль С.**, г. Мінск.

У пашпартным стале Маскоўскага РАУС сталіцы карэспандэнту газеты адказалі, што з атрыманнем пашпарта няма ніякіх праблем. Калі і дзейнічае дзесьці падобнае распараджэнне, то, відаць, па ініцыятыве на месцах. Пры наяўнасці бланкаў пашпарт выдаецца.



Малюнак Л. ГАДУНА.




## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Дарагі Мікола Пруські!

Ня ведаю чаму, але да гэтага часу я не атрымліваў Вашае газэты. Ад Віктара Л. дастаў пару нумароў і сьцьвярджаю, што газэта беззаганная. Вялікае Вам прызнаньне!

З Бацькаўшчыны маем дакладныя весткі, бо ў беларускім радыё, што сыботы чуем двух журналістаўпатрыётаў, — абое ў добрай беларускай мове называюць рэчы сваімі іменамі.

З дапамогай Amnesty International мы пратэставалі супраць пагвалчаньня людзкіх правоў у Беларусі, дамагаліся звальненьня арыштаваных іншадумцаў.

У асабістым жыцьці бяз зьменаў, старэем. Хацеў яшчэ раз паехаць дамоў (быў 2 разы), але цяпер трэба задумацца ці гэта бясьпечна... Вядома, што ўрадавыя дзейнікі нас там ня будуць вітаць.

Перасылаю ахвяру, ад сябе і ад В. Л. Газэту прашу слаць на адрас...

Вітайце ўсіх супольных знаёмых!

З пашанай М. Л.

*Дзякую за цікавы ліст. Асаблівая падзяка за значную ахвяру на выдавецтва газэты. Таксама дзякую Сп. В. Л. за ягоную значную ахвяру. Жадаю Вам усяго найлепшага.*

Паважаны Сп. Рэдактар!

25-га Мая гэтага году, будучы прысутным на зьезьдзе ў Лёндане, я пабачыў ў бібліятэцы Ф. Скарыны Вашую газэту. Мне яна спадабалася, бо пісаная часткова паангельску. Мая жонка ангелька. Пышце і змагайцеся за незележнасьць нашай шматпакутнай Беларусі. Жадаю атрымоўліваць газэту. Залучаю ахвяру.

З пашанай, С. Б.

*Дзякуем за ліст і спадобу нашай газэты. Газэту будзем высылаць.*

Паважаны Сп. Прускі!

Выбачаюся за спазьненьне з дасылкай ахвяры на "Беларускі Дайджэст". Аб прычынах ня буду пісаць, бо ў нашым веку ўсе мы іх маем дастаткова. Хацелася-б ведаць, ці даводзіцца чытаць "Беларускі Дайджэст" менскім ненавісьнікам усяго беларускага.

Жадаю добрага здароўя і ўсяго найлепшага.

З глыбокай пашанай, М. С.

*"Беларускі Дайджэст" у Менску чытаюць, але ня ведаю ці чытаюць яго высокія ўрадавыя чыньнікі. Яны нічога беларускага ня любяць, а да гэтага там хапае для іх прабальшавіцкіх рускамоўных выданьняў. Усяго найлепшага.*

У парку гуляюць дзед і баба.
— Памятаеш, — кажа старая, — на гэтай лаўцы мы ўпершыню з табой пацалаваліся.
— Так, памятаю. Бачыш на ёй зноў нейкі дурань спатканьня чакае.

---

Запламбаваўшы зуб, дэнтыст праводзіць пацыентку да дзьвярэй, кажучы:
— Цяпер тры гадзіны старайцеся нават не адкрываць рот.

Пры гэтых словах з калідора рванууўся да лекара мужчына і, горача паціскаючы руку, сказаў:
— Вось дзякуй! Вось дзякуй!

Прыходзіць селянін спавядацца:
— У імя айца, духа, амінь...
— А дзе сын?
— Стаіць ля царквы.

На Беларусі цяпер модныя лозунгі:
— Луку на муку!
— Беларусь у Эўропу! Лукашэнку ў ж-пу!